

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(60) Студзень 1999 January Год выд. 7.

## ВЕХІ І ПРАРЭХІ, або Чатыры пытанні да беларуса

*"ЛіМ"*

Чым адрозніваецца жывое ад нежывога? Правільна — тым, што ў жывога заўсёды ёсць свая сістэма каштоўнасцяў, свае арыенціры і прыярытэты. Нават амёба мусіць адрозніваць святло ад цемры і цяпло ад холаду, каб выжыць і прадоўжыць існаванне роду. Чым адрозніваецца беларус ад небеларуса? Правільна — тым, што ў беларуса няма ўласных арыенціраў, сваёй сістэмы каштоўнасцяў і прыярытэтаў. Гэтая дэзарыентацыя мае татальны характар, бо тычыцца ўсіх бакоў жыцця — эканомікі, палітыкі, культуры, духоўнага існавання. Сённяшняя сітуацыя нават горшая, чым была 7 гадоў назад, бо зганьбаваны ідэалы 91-га года, а спробы ажывіць савецкія фантомы ў межах адной, асобна ўзятай Беларусі становяцца ўсё больш абсурднымі. Гэта часам заўважаюць нават арганізатары таго руху: "заднім ходам — наперад". Тым больш цяжка разабрацца простаму чалавеку: дзе тут перад, а дзе — зад, дзе праўда, а дзе — хлусня, дзе мінулае, а дзе — будучыня. Усё пераблыталася ў галовах людзей: дабро — са злом, надзея — з роспачу, справядлівасць — з крыўдаю. Толькі жыццё, горшае з кожным годам (а галоўнае — бязмэтнае ды бессэнсоўнае, як жабрацкая доля), сведчыць, што нешта тут не так, што сённяшні шлях вядзе зусім не туды.

Але гадзіна рашучых дзеянняў і вялікіх перамен яшчэ не надышла, бо не пройдзены пакуль "час здумлення" — этап асэнсавання пройдзенага і выбару сапраўды новых, а не спарахнелых мэт і арыенціраў.

На маю думку, жыццё паставіла некалькі стратэгічных пытанняў, ад вырашэння якіх будзе залежаць наш далейшы лёс. І вось сёння падыходзячы момант для іх абмеркавання, калі заўгодна — час нацыянальнай дыскусіі (але не рэферэндуму) з прыцягненнем сродкаў масавай інфармацыі, грамадскіх і палітычных рухаў, прыватных кантактаў.

Першае з іх — пытанне аб незалежнасці. Што такое беларуская незалежнасць — дабро ці зло? Гістарычная заканамернасць ці выбрыкі фартуны? Незаслужанае шчасце або катастрофа? У сувязі з гэтым узнікнуць пабочныя пытанні — пра адносіны да суседзяў, лёсе імперый, шляхах еўрапейскага развіцця і г.д. Але на асноўнае пытанне — ці быць Беларусі незалежнай, ці заслужыла яна свой суверэнітэт? — мусіць быць ясны, недвухсэнсоўны адказ.

Другое пытанне — аб зямлі. Нягледзячы на 70 гадоў індустрыялізацыі, беларусы ў вялікай ступені засталіся сялянамі, народам, блізкім "да глебы". Таму нават у канцы XX стагоддзя зямельная праблема для нас даволі актуальная. Ці можа зямля быць прыватнай уласнасцю як дом або пуня, ці толькі нічыйнай, "агульна-народнай" маёмасцю? Ці можа зямля быць таварам, сродкам вытворчасці і ўзбагачэння, або толькі неразменным мёртвым капіталам пад нагамі збяднелага народа? Пытанне амаль сакральнае, бо звязана не толькі з сельскай гаспадаркай, але са светапоглядам, з правам чалавека быць багатым ці бедным, працаваць на сябе і ўнукаў або сядзець увогуле склаўшы рукі. Права ўласнасці на зямлю, акрамя іншага, ёсць цывілізаваным спосабам "прывязкі" чалавека да розных вытокаў, да сваіх каранёў у духоўным і матэрыяльным сэнсе. Таму гэтую праблему можна было б паставіць і першай...

Трэцяе пытанне ўвогуле простае, але не для сучаснай Беларусі, тут яно, бадай, самае складанае: адносіны да беларускай культуры і ў прыватнасці — да яе мовы. Што такое беларуская мова — анахранізм ці жыццёвая перспектыва? Камень пад нагамі прагрэсу ці галоўны каталізатар нацыянальнага развіцця? Ці можа развівацца культура без сваёй мовы, а народ — без сваёй культуры? Ці патрэбна наогул беларуская культура, мо хопіць з нас амерыканскай і расійскай? Пытанні не рытарычныя, бо вельмі пашырана меркаванне, што не якасць культуры і яе мовы, а валавы збор бульбы і ўмоўна разліта чыгуну сведчыць пра жыццёвы ўзровень краіны. Але ж калі культура — духоўная, палітычная, эканамічная — ёсць з'ява другасная, то што ж тады вылучае народ сярод іншых і вызначае ягоны лёс у гісторыі? Аб'ём гарэлачнай вытворчасці? Колькасць з'едзенага сала або цэментовых "Ільічоў" на душу насельніцтва? Пытанне пра беларускую мову і культуру пакуль не вырашана, проста пасля вядомага рэферэндуму яно набыло больш глыбокі, бадай — экзістэнцыяльны характар.

Апошняя з праблем таксама экзістэнцыяльная, калі не сказаць — філасофская: ці трэба беларусу свабода? Ці будзе ён і далей разменнай манетай і аб'ектам гандлю сваіх суседзяў або захоча стаць паўнапраўным суб'ектам, актыўным творцам уласнага лёсу? На побытавым узроўні гэта можна вызначыць так — ці хочам мы стаць асобамі-гаспадарамі з уласным бачаннем жыцця і адказнасцю за яго або застацца "шэрымі баранамі", якія паслухмяна цягнуцца насустрач пагібелі, перакладаючы віну за сваю сляпату і нямогласць на чарговага "пастуха". Менавіта ў выхаванні самастойнай, думаючай, дзейснай асобы палягае перспектыва беларускага ўсталявання і галоўны рэзерв нашага прагрэсу. Прымус, гвалт, дыктат — ёсць прыкметы антынацыянальнай палітыкі і ворагі беларускай справы. Але ж свабода — ноша цяжкая, не кожнаму па сілах. Ці "пацягне" яе наш просты і не зусім "просты" чалавек? Хай на гэта ён адкажа сам ці, прынамсі, ягоныя дзеці.

Урэшце, вышэйагучаныя пытанні ёсць своеасаблівы тэст на беларускасць і нацыянальную сталасць. І было б больш цікава даведацца, ці існуюць "жывыя" беларусы сярод чытачоў "Рэспублікі" або "Советской Белоруссии" (сярод спажыўцоў "ЛіМа", думаю, такія ёсць). У ідэале трэба было б мець меркаванні самага шырокага спектра — камуністаў і лібералаў, "лукашыстаў" і нацыяналаў, прафсаюзаў і прадпрымальнікаў, студэнтаў і пенсіянераў. Бо за апошнія 4 гады набралася шмат прыхаваных, нявыказаных праблем. Кожная партыя, рух і нават асобныя грамадзяне "закансерваваліся" ў сабе, "варацца ва ўласным сочыве". Існуе пэўная патрэба ў разбурэнні гэтых межаў, у рэалізацыі "дыскутабельнай энергіі" людзей і ўзнаўленні кантактаў між рознымі сацыяльнымі групамі. Толькі ў вольным абмене ідэямі і думкамі можа нарадзіцца ісціна і з'явіцца святло ў канцы беларускага тунеля.

**Васіль АЎРАМЕНКА**



**Айцец Міхась СТРАПКО —** доўгагадовы настаяцель Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, ЗША., знаны царкоўны ды грамадзкі дзеяч, вялікі патрыёт беларускага народу.

Дарагі айцец Міхась! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



### СОВМЕСТНОЕ ЗАЯВЛЕНИЕ

**Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко и Президента Российской Федерации Б.Н.Ельцина**

Беларусь и Россия сделали исторический шаг по пути единения двух братских стран и народов: 25 декабря 1998 года в Москве мы подписали Декларацию о создании в наступающем году Союзного государства, договор и соглашение об обеспечении равных прав наших государств на территории Беларуси и России.

Создание союзных органов государственной власти и управления, которым Беларусь и Россия делегируют широкие полномочия в социально-экономической области, в сфере внешней политики, обеспечения обороны и безопасности, призвано объединить усилия наших стран и народов для эффективного ответа на вызовы XXI века.

Беларусь и Россия остаются суверенными и полноправными членами международного сообщества государств, сохраняют все права и обязательства по международным договорам, участниками которых они являются.

Москва, 25 декабря 1998 года

Вы прачыталі паперку п'яных "таварышчаў", паперку здрады і ганьбы... Гэтая паперка такой і застанецца, бо большасць беларусаў у маскоўскі рабскі хамут сунуць сваю галаву не захочуць...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# БЕЛАРУСЬ АБРАБАВАНАЯ



**Вялікія фінансава-эканамічныя страты, якія ад пачатку 1998 году давялося цярпець краінам Азіі, Паўдзённай Амэрыкі і, асабліва, Расеі, змусілі ўрады заходнеэўрапейскіх дзяржаў і ЗША праверыць свае погляды на ўзаемадзеяньне паміж эканамічнымі і палітычнымі рэформамі, якія былі зроблены ў дзяржавах з эканамічнымі і фінансавымі цяжкасьцямі.**

**Што тычыцца Беларусі, Расеі і іншых незалежных дзяржаваў былога СССР, дык Захад да апошняга часу верыў, што, даючы фінансавую дапамогу, ён зможа паўплываць ня толькі на эканоміку тых краінаў, але і дапамагчы зрабіць незваротныя ідэялягічныя зьмены ў іхных грамадзкіх структурах і інстытутах. На вялікі жаль, гэтага ня сталася. Яно і не магло стацца, бо ўрады ўсіх гэтых краінаў засталіся ў руках тых самых камуністычных верхаводаў, якія кіравалі, як кажуць, "савецкім парадам" у рэспубліках былога СССР. Спадзяваньні на тое, што гэтыя людзі, якія ўсё сваё жыцьцё шчыра трымаліся і прапагавалі сваю партыйную "веру", пабудуюць ня ўяўны савецкі, а сапраўды дэмакратычны лад у сваіх дзяржавах, былі нерэальнымі. Яны, гэтыя спадзяваньні, нават пярэчылі ўласнаму дасьведчаньню заходніх дзяржаваў, набытаму імі пасьля Другой сусьветнай вайны, калі ў цэлым сьвеце адбудову Заходняй Нямуччыны называлі "заходненямецкім эканамічным цудам". Нават Лукашэнка, мабыць, быў пад уражаньнем гэтага цуду, заслугаю якога, аднак, паводле крыклівых выказваньняў беларускага прэзыдэнта, была нямецкая дысцыпліна і... Адольф Гітлер. Хоць разперажыся, але незразумела!.. Пабудову безпадстаўных сылягізмаў у палітыцы завуць дэмагогіяй. А ў гэтай галіне безпрынцыповага палітыканства беларускі прэзыдэнт вельмі дасканалы майстар.**

**Трэба памятаць, што першыя амаль чатыры гады пасьля Другой сусьветнай вайны ў Заходняй Нямеччыне, нацысцкая партыя была забаронена і адбудовай краіны кіравалі, як кажуць, ад капрала да генэрала, амэрыканскія і заходнеэўрапейскія экспарты. Гэта яны вучылі немцаў дэмакратычных прынцыпаў, як у палітыцы, гэтак і гаспадарцы. Я не хачу прыніжаць ролі, якую выконвалі ў адбудове заходненямецкай эканомікі такія слынныя нямецкія дзеячы, як канцлер Конрад Адэнаўэр і вядомы эканаміст, канцлер Людвіг Эдгард. Так, яны, будучы далёкімі ад нацызму, зрабілі шмат. Але, рухавіком перабудовы Заходняй Нямеччыны былі ўсё-ж дзеячы заходніх дэмакратычных дзяржаваў. Яны ня толькі паставілі палітыку і нямецкую гаспадарку на дэмакратычныя рэйкі, але, адкінуўшы гітлераўскае нацыянал-сацыялістычнае чалавеканенавісьніцкае вар'яцтва, навучылі немцаў, як будаваць дабрабыт ва ўмовах свабоды і дэмакратыі.**

**А што рабілася ва ўсходняй частцы Нямеччыны? Які там быў рух наперад? Адказ вельмі просты — ніякі, савецкі!**

**Нацысцкая партыя там таксама была забаронена, але на яе месца не прыйшоў дэмакратычны лад, а насунулася камуністычнае ліхалецьце. Тыя самыя "дысцыплінаваныя" немцы, прайшоўшы праз ідэялягічна-эканамічную малатарню савецкіх экспэртаў, не стварылі ніякага ўсходненямецкага эканамічнага цуду. Наадварот, эканоміка ўсходняй Нямеччыны і нават людзі, ужо ў аб'яднанай Нямеччыне, аж дагэтуль ня могуць "ачухацца" ад камуністычна-эканамічнага бязладзьдзя і адарвацца, нават, ад палітычнага мысьленьня, якім яны нашпігоўваліся на працягу амаль цэлага паўстагодзьдзя.**

**Дык вось, дасьведчаньне, здабытае пасьля Другой сусьветнай вайны, паказвае, што каб пабудаваць эканамічна здаровую незалежную дзяржаву, трэба перш зрабіць палітычныя рэформы, пазбавіцца старых дзяржаўных структураў, а пасьля, заклаўшы дэмакратычны падмурак, брацца за эканамічныя рэформы.**

**На тэму рэформаў у Беларусі, аўтару гэтых радкоў ужо даводзілася пісаць раней (ЛіМ, Менск, нумар 15, 16-га красавіка 1993 г.)**

**Я дазволю сабе працытаваць некаторыя свае выказваньні таго часу.**

**«У адраджэньні беларускай незалежнасьці, палітычныя рэформы павінны апярэджваць эканамічныя зьмены ў жыцьці народу. Калі гэтага ня будзе, у Беларусі будуць гаспадарыць ворагі рынкавай эканомікі, людзі незацікаўленыя ў беларускім адраджэньні. Можна чакаць, што будзе расьці незадавальненьне ў народзе, павялічвацца нацыянальны цынізм. З гэтым апошнім будзе асабліва цяжка змагацца, бо цынікі, як вядома, ня маюць героя. Праз гэта, адраджэньне поўнай беларускай незалежнасьці можа зрабіцца вельмі зацяжным. Зацягласьць, з свайго боку, можа выклікаць эканамічны спад і пачуцьцё болю нават сярод актыўнай часткі грамадзтва, вынікам чаго можа быць дэактывізацыя працэсу адраджэньня Беларусі».**

**Калі ў 1993 годзе існавала толькі пагроза вось такой прыкрай ланцуговай рэакцыі, дык цяпер, пасьля пяцігадовага бязладзьдзя і адчыненай барацьбы ўладаў Беларусі супроць усяго беларускага і, нават, зацюканага імі нашага народу, усё чаго мы баяліся, на вялікі жаль, ужо сталася. Паводле бадай аднаго з самых зацятых ворагаў беларушчыны, беларускага прэзыдэнта (якая іронія!), Беларусь будуе "рынкавы сацыялізм", які для зацікаўленага, нават недасьведчанага назіральніка, ёсьць нічым іншым, як нейкім такім сымбіёзам бальшавізму з нацызмам, прыпраўленага вялікаю дозаю расейскага шавінізму.**

**Шкода, што хоць і не па сваёй віне, Беларусь марна страціла пяць апошніх гадоў. Яна не выпрацавала законаў, якія-б прыцягвалі заходніх інвэстараў рабіць свае ўклады ў разьвіцьцё беларускай эканомікі і стварылі як для Беларусі, гэтак і для інвэстараў, спрыяльную эканамічную і гандлёвую атмасфэру. Гэтага Беларусь, як, дарэчы, і Расея не рабіла. Вось таму і зразумела чаму, пасьля распаду СССР, інвэстыцыі заходніх дзяржаў у эканоміку Расеі (ня кажучы ўжо пра Беларусь) з яе насельніцтвам у 140 мільёнаў чалавек былі толькі 8 мільярдаў даляраў, у той час, як заходнія інвэстыцыі ў эканоміку Вэнгрыі з насельніцтвам у 10.2 мільёны, дасягнулі 20-ці мільярдаў даляраў за той самы прамежак часу.**

**Калі Лукашэнка і ягоная Расея бачаць сьмяротную пагрозу для сваіх краін не ў банкрутцве эканомікі, людзкой беднаце, патаптаньні правоў сваіх грамадзянаў, задушэньні свабоды і дэмакратыі ды давядзеньні людзей да пачуцьця нікчэмнасьці, а ў пашырэньні НАТА, дык перад намі паўстае сумная рэчаіснасьць. Можна з абсалютнаю пэўнасьцю сказаць, што з усіх тых шматлікіх вышэй пералічаных цяжкасьцяў, якія пагражаюць устойлівасьці міру ва ўсходняй Эўропе альбо незалежнасьці Беларусі і Расеі, пашырэньне НАТА на ўсход займае, бадай, апошняе месца, калі, звычайна, ня ўлічваць таго, што яно, гэтае пашырэньне, робіцца перашкодаю для спрадвечнага імкненьня Расеі да павялічэньня сваёе імпэрыі.**

**У Расеі веліч дзяржавы ніколі не адзначалася стварэньнем дабра для свайго народу, а толькі вайсковай здольнасьцю заваёўваць чужыя народы. Вайскоўшчына і ўзбраеньне заўсёды ставіліся на дзяржаўны педэстал расейскай імпэрыі ўсіх часоў. Усё гэта няновае. Таму міжвольна прыгадваюцца жартаўлівыя словы Ўладзіміра Высоцкага, расейскага барда 60-70-х гадоў, які нібы ў адказ на мізэрнасьць жыцьця ў Расеі, "угамоньваў" людзей, адважваючыся, сваім хрыплівым голасам, сьпяваць гэтыя словы:**

**...Зато мы делаем ракеты**
**И перекрыли Енисей,**
**А также в области балета**
**Мы впереди планеты всей,**
**Эх, мы впереди планеты всей!...**

# "Мы яшчэ паваюем..."?

БЕЛАРУСЬ 11/98

Лістапад месяц — гэта, як правіла, завяршэнне поўнага гадавога цыкла жыцця краіны. Не снежань, калі фінішуе каляндарны год, а менавіта лістапад, калі завяршаюцца практычна ўсе сельскагаспадарчыя работы і мы падводзім рэальныя вынікі пражытага года. Не сакрэт, што наш дабрабыт сёння, ды і ўвогуле эканамічная бяспека дзяржавы, моцна залежыць і ад поспехаў на сельскагаспадарчай ніве. Зрэшты, не толькі эканамічная, але і палітычная, бо адсутнасць на паліцах крамаў пэўных прамысловых тавараў працоўны люд яшчэ неяк можа цярпець. А вось, не дай Бог, знікнуць з тых паліцаў прадуктовыя тавары...

Як сцвярджае адна з найбольш уплывовых дзяржаўных газет — "хлеб не толькі мерка багацця краіны, але і аснова яе суверэнітэту". З гэтым, бадай што, цяжка паспрачацца. Сёння ўжо магчыма з пэўнасцю сказаць, што чарговая "бітва за ўраджай" намі выйграная. Пра гэта сведчаць статыстычныя лічбы, паводле якіх мы яго ў матулі-прыроды на гэты раз адваявалі паспяхова. Вось толькі як урэшце дабіцца таго, каб за хлеб не змагацца трэба было, а проста здабываць добрасумленнай працаю... Ніяк не ўдаецца нам развітацца з рэвалюцыйнай тэрміналогіяй, што пануе не толькі ў палітычнай лексіцы. Рэвалюцыя працягвае жыць не толькі ў памяці многіх людзей, але і ў іхніх сэрцах.

Дарэчы, лістапад — месяц, у якім мы штогод адзначаем, прычым на дзяржаўным узроўні, свята гэтай рэвалюцыі, што адбылася ў 1917 годзе. А калі дакладней — свята Вялікага Кастрычніка. Шчыра кажучы, далёка не для ўсіх сёння ён "вялікі". Многія лічаць гэтую дату ледзь не самай чорнай у нацыянальнай гісторыі. Але ў большасці нашых землякоў Вялікі Кастрычнік не выклікае аніякіх эмоцыяў — ні добрых, ні дрэнных. Яны занятыя цяпер, як гэта ні сумна, пераважна праблемамі ўласнага выжывання.

Тым не менш пэўная катэгорыя людзей гэтае свята, як, дарэчы, і ўсе іншыя, актыўна адзначае. Хто ведае, можа, якраз дзякуючы гэткай "актыўнасці" нашая эканоміка і ўтрымліваецца пакуль што на плыву. Нездарма, калі карэспандэнт адной з нашых газет звярнуўся ў Мінфін, каб атрымаць статыстыку чыстага прыбытку дзяржавы ад продажу спіртовых напояў, чыноўнікі паставіліся да яго, як да небяспечнага шпіёна. Яны заявілі, што такая лічба сакрэтная і нават стратэгічная і "разглашению не подлежит". Усе спробы здзіўленага журналіста атрымаць такога кшталту інфармацыю завяршыліся фіяска. Зразумела толькі, што гэтая лічба — адзін з галоўных артыкулаў стабільнага паступлення сродкаў у дзяржаўную казну. І яе велічыня моцна залежыць не толькі ад аматараў усемагчымых святкаванняў, але і ад нас усіх. Міжволі прыходзіць думка: а што будзе, калі народ наш аб'явіць раптам байкот "зялёнаму змію". Страшна сабе нават і ўявіць наступствы для нашай эканомікі...

Зрэшты, такі вось "стабільны" прыбытак дорага той жа дзяржаве, а значыць і нам усім абыходзіцца. Па дадзеных МУС сёлета асобамі, якія былі "падшафе", здзейснена амаль 60 % наўмысных забойстваў, амаль 55 % згвалтаванняў, звыш 50 % рабаванняў, звыш 40 % цяжкіх цялесных пашкоджанняў і шмат чаго іншага. Вось табе і стабільны прыбытак! Цікава, ці аналізуе хто-небудзь на дзяржаўным узроўні гэткія метамарфозы?

Але абтрасем са сваіх плеч учэпістага "зялёнага стабілізатара" нашай эканомікі і звернемся да больш сур'ёзнай рэчы — палітыкі. Калі ў легкадумнай Еўропе лета — пара актыўнага адпачынку і ўсе палітычныя страсці-жарсці сціхаюць, то ў нашай краіне мінулае лета выдалася ў гэтым плане надзвычай гарачым. Палітычны "тэрмометр" часам нават зашкальваў. Прычым нашая палітычная атмасфера выключна дакладна адпавядала ўсім вядомым на сёння законам фізікі — чым вышэй, тым гарачэй. А на са-

мым версе атмасфера была проста раскаленай, у чым непасрэдна пераканаўся і карэспандэнт нашага часопіса. Ягоная спроба ў ліпені на працягу амаль трох тыдняў прабіцца да аднаго з намеснікаў міністра замежных справаў не завяршылася поспехам. Знешнепалітычны бастыён аказаўся надзвычай стойкім. Гэтую стойкасць ён прадэманстраваў не толькі сціпламу "працаўніку пяра", але і практычна ўсім пасольствам заходніх краінаў, ні на міліметр не саступіўшы ў сваёй цвёрдай пазіцыі наконт іх месцазнаходжання. Ім недвухсэнсоўна ўказалі на іхняе месца, дзе і як трэба пражываць на тэрыторыі суверэннай Беларусі. Страшэнна пакрыўджаныя капіталісты, якія ні ў адной краіне не сутыкаліся з такім моцным праяўленнем нацыянальнай годнасці, знаходзячыся, відаць, у надзвычай экзальтаваным стане, адказалі яўна неадэкватна і недальнабачна. Яны тут жа апублікавалі аб'ёмны спіс вышэйшых дзяржчыноўнікаў Рэспублікі Беларусь, якія не маюць права наведваць іхнія краіны, яўна не ўсведамляючы ўсе наступствы для сябе такога кроку. Як кажуць, прыехалі!

Няма, вядома, аніякіх сумненняў, што да лістапада, калі чытач атрымае гэты нумар часопіса, гарачыя палітычныя страсці астынуць. Празрыстая і ясная атмасфера восені зробіць такімі ж празрыстымі і яснымі думкі і пачуцці людзей, якія па сваім службовым становішчы адказныя за стабільнасць і плённасць стасункаў паміж нашымі дзяржавамі. Зразумела толькі адно: пачуцці і эмоцыі пры вырашэнні супярэчлівых момантаў у вышэйшай палітыцы — дарадцы вельмі дрэнныя і адбіваюцца не толькі на іміджы пэўных палітыкаў, але і на іміджы цэлай дзяржавы і цэлага народа. А значыць, і на ягоным дабрабыце, які, на жаль, пакуль што моцна залежыць і ад знешніх фактараў існавання, дакладней, знешніх крэдытаў.

Сувымярэнне сваіх рэальных магчымасцей — рэч увогуле надзвычай сур'ёзная. Самыя непрыемныя ўспаміны дзяцінства звязаныя якраз з тым, калі я, аслеплены нейкай крыўдай, кідаўся з кулакамі на дзецюка, значна мацнейшага фізічна. Рэдка такі імпэт заканчваўся трыумфам. Звычайна наадварот — разбітым носам ці падбітым вокам. Менавіта тады, у дзяцінстве, жыццё прымусіла аўтара гэтых радкоў урэшце спачатку моцна думаць, перш чым кідацца з кулакамі на дужэйшага праціўніка. Прынамсі, з'явілася разуменне, што кулакі — не самая эфектыўная зброя.

На вялікі жаль, Беларусь не ў стане сёння дыктаваць "надвор'е" ў Еўропе. Яе "кулакі" яшчэ пакуль не наліліся да належнай велічыні, каб ушчуваць парасправазаўшыхся крыўдзіцеляў, а "разбіты нос" кожны раз абыходзіцца нам у не адзін мільён (а можа, і мільярд) даляраў...

Не можа пакуль што наша краіна моцна ўплываць на тое ж надвор'е і ў Расіі, якое там імкліва псуецца. Ды і як можа быць інакш, калі гэтая краіна, на думку вядомага расійскага эканаміста Мікалая Петракова, цэлых сем гадоў ідзе "не туды". Шаноўны эканаміст, былы блізкі дарадца Гарбачова, глыбока перакананы, што Расія павінна была пайсці па маршруце пана Эрхарда — бацькі германскага эканамічнага цуду. Паколькі мы не можам быць экспертамі ў такім пытанні, то каментаваць гэты рэцэпт не будзем. Але драматычныя падзеі на расійскім эканамічным і фінансавым рынку прымушаюць сур'ёзна задумацца над рэальным становішчам нашай дарагой саюзніцы. І ўзнікае шэраг пытанняў, якія павінны моцна трывожыць і нас усіх, і, вядома, нашых уладаў, што імкнуцца да яшчэ больш шчыльнай інтэграцыі з Расіяй, даць падставы для роздуму.

Гэтыя драматычныя падзеі разгарнуліся, дарэчы, адразу пасля таго, як у Расіі зноў вылучылі чарговую выратавальную антыкрызісную і стабілізацыйную праграму, якая ўжо на гэты раз (!) павінна была канчаткова "стабілізаваць" расійскую эканоміку і фінансы. Але што рабілі паны эканамісты і фінансісты, якія стаялі "ля трона" апошнія сем гадоў? Хіба не выводзілі з крызісу і не "стабілізавалі"? Чаму чарговая антыкрызісная праграма зноў запатрабавала даршэты вывернуць кішэні ў першую чаргу сярэдне- і нізкааплачваемых слаёў насельніцтва? Як і на пачатку "вялікага шляху" да светлага капіталістычнага заўтра, народу прапаноўваюць шчыльней зацягнуць папругі. Колькасць насельніцтва ў Расіі з даходамі ніжэй пражытачнага мінімуму ў 1991 годзе складала 17 млн. чалавек, а сёння такіх беднякоў — у два разы болей.

Прамысловасць, якая працуе на спажывецкі рынак, у гэтай краіне проста рухнула. Некаторыя яе віды, як, напрыклад, абутковая і швейная, "усохлі" разоў у сем. Практычна прыпынена вытворчасць бытавой тэхнікі і тэлевізараў, якія цяпер стала танней купляць у нас, у Беларусі. Жывёлагадоўля адкінута на 40 гадоў назад. Тыя ж расійскія касмічныя праграмы, што былі доўгі час гонарам гэтай краіны, складаюць сёння 5 % ад амерыканскіх...

Навідавоку правал эканамічнай палітыкі нашай саюзніцы на ўсіх стратэгічных кірунках. Не дапамаглі ні маладыя, ні старыя "рэфарматары". Наўрад ці дапамогуць і чарговыя рэанімацыйныя ін'екцыі МВФ, бо і яны, дарэчы, нягледзячы на вялікі прапагандысцкі шум, складаюць не болей як трэць ад таго, што міжнародныя фінансавыя магнаты давалі калісьці Мексіцы ці Паўднёвай Карэі... Сапраўды, куды нясешся ты, Русь-тройка?

Яшчэ адзін аспект, які і сёння моцна ўплывае, а заўтра будзе ўплываць нашмат мацней на становішча Расіі, — гэта талібскі фактар. Войскі радыкальнага мусульманскага руху напрыканцы лета практычна цалкам узялі пад кантроль тэрыторыю шматпакутнага Афганістана і выйшлі да паўднёвых межаў СНД. Тое, што яны не спыняцца на тых рубяжах, нягледзячы на шчырыя перакананні, бадай што відавочна. Сілы, што фінансуюць "вялікі паход" талібаў (а гэта найбольш артадаксальныя мусульманскія нуварышы з Блізкага Усходу, у першую чаргу з Саудаўскай Аравіі), маюць на мэце аб'яднаць пад мусульманскім крылом ледзь не ўвесь свет. Да таго ж у сярэднеазіяцкіх постсавецкіх рэспубліках набірае вагу ўласная мусульманская апазіцыя, якая спіць і марыць "парулідь". Адным словам, справа толькі ў часе...

Не сакрэт, што асноўная сіла, якая абараняе гэтыя межы, — расійскія воінскія часткі. Ужо сёння яны нятанна абыходзяцца Расіі. Але іх у святле апошніх падзей яўна бракуе. Расія вымушаная будзе дзеля ўласнай бяспекі выводзіць на межы Таджыкістана і Узбекістана стратэгічныя злучэнні. І гэта адразу пасля чачэнскага шоку. Каштаваць будуць такія аперацыі не адзін мільярд даляраў. Сітуацыя, як бачым, складваецца для Расіі незайздросная. А значыць — і для яе найбліжэйшай саюзніцы.

На першы погляд, якая справа Беларусі да тых крывавых талібаў, якія шчыруюць за тысячы кіламетраў ад нашых межаў. А гэта як паглядзець! У выпадку крытычнай сітуацыі на сваіх паўднёвых межах Расія можа папрасіць у саюзніцы дапамогі. Прычым папрасіць такім тонам, што ніяк нельга будзе адмовіцца... Ці трэба тлумачыць — чаму, улічваючы нашую цесную "прывязанасць" да суседкі. Дык што — "мы ешчё повоюем"?

Адказам на гэтае пытанне будзем лічыць заяву афіцыйных колаў Беларусі, зробленую ў сярэдзіне жніўня: Беларусь як не пасылала, так ніколі і не будзе пасылаць сваіх ваеннаслужачых на паўднёвую мяжу СНД.

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ.**

... паведамляецца, што Ігар Германчук, рэдактар газэты «Навіны» звольнены са свае пасады заснавальнікам газэты Паўлам Жукам. З прыкрасцю трэба сказаць, што апошнім часам газэта "Навіны" нагадвала больш нейкую раёнку са сваёю беларуска-расейскаю трасянкаю, чым паважны орган апазыцыі.. Хто будзе новым рэдактарам і якія зьмены адбудуцца ў газэце... пажывём — пабачым...

# Boss of Belarus pursues dream of reviving Soviet Union

By MICHAEL WINES
NEW YORK TIMES

MINSK, Belarus — For four long years, President Alexander G. Lukashenko has pursued an unlikely obsession: to raise tiny Belarus from the shards of the sundered Soviet Union and remake it into a model socialist state.

Lately, it seems he has succeeded all too well.

The fruits of Lukashenko's labors are evident daily outside the Golden Egg, a downtown shop in this city of 1.7 million, where nearly 100 people lined up in foot-stamping cold on a recent December morning.

Their objective was to get inside the store and buy the allotted maximum of 20 eggs each.

Most had been waiting for three hours, since the store opened at 8 a.m.

"I can't feel my feet," a fur-swaddled woman said. "This is Lukashenko's fault."

She refused to give her name. "The further away this is published, the better," she said.

In more ways than one way — the food rationing, the lines, the ever-shrinking ruble, the undercurrent of fear — Minsk in 1998 resembles Moscow eight or nine years ago, not long before the Soviet Union began to crumble.

For Lukashenko, that rare head of state who openly longs for a Soviet restoration, such problems could not have come at a worse time.

Belarus' socialism dovetails with a larger ambition Lukashenko harbors: a merger of Belarus with Russia, thus beginning a rebuilding of the old Soviet empire. It also would enable him to seek the new nation's presidency, a plum he insisted recently is the farthest thing from his mind.

Russia has been heading in the opposite direction, turning itself into a capitalist state. It would be harder still if Belarus' stumbling economy ground to a complete halt, saddling Moscow with the cost of maintaining another 10 million impoverished people.

It is something that both governments appear to desire. (On Friday, Lukashenko and President Boris Yeltsin of Russia proposed to begin next year to unify the two nations' economies under a single currency.)

It is also a prospect that elevates Lukashenko from garden-variety autocrat to a man the West is beginning to watch with some dismay. Lukashenko has spent considerable time stumping in Russia's so-called Red Belt, a devotedly communist strip of Russia south of Moscow, and the regions' governors are frequent visitors to Minsk. He has surfaced in Russian presidential polls, and few believe his denials of interest in ruling a united Russia and Belarus.

Unlike Russia's communists, a politically clumsy and mostly unpopular faction, Lukashenko might even be a contender — if he gained an entry to Russian politics.

Opposition leaders yesterday accused Lukashenko of violating Belarus' constitution by agreeing to merge the former Soviet republic with Russia as early as next year.

Members of the former elected parliament — which Lukashenko dissolved two years ago — and opposition party leaders issued a joint statement criticizing the agreement. They said Lukashenko was motivated in part by a desire to avoid national elections, which are scheduled for next year.

Lukashenko, a charismatic dictator with a handpicked Parliament and a base of peasant support, still appears concerned enough about the future to begin shoring up his position.

He also has persuaded the World Bank and the International Monetary Fund to withhold judgment on Belarus — they had all but renounced any notion of lending more money to the government earlier this year — by promising economic reforms.

By Western standards, there is a lot to reform.

Lukashenko, who ran a collective farm before entering politics, calls his brand of economic policy "market socialism." The government owns or controls much of industry and agriculture, but also allows private enterprises to exist. In theory, at least, the government side of the economy competes in the world market as well as with domestic rivals.

In practice, Lukashenko has followed a straightforward fiscal policy: He prints money when the nation runs short, and caps prices when he thinks they are too high. The result is inflation and shortages.

The average citizen's monthly income has slumped since July from $70 to about $40. That depends on how one measures income: At last count, there were five separate exchange rates for the Belarusian ruble, from 91,000 to more than 350,000 per dollar.

At the latter rate — the one the rest of the world uses to buy and sell rubles — a Belarusian millionaire is worth about $3.

Belarus' Gosplan-style network of price controls has fostered a black market in food, to farmers' ruination. The country's artificially low prices force farmers to sell their crops at a loss, while entrepreneurs snap up the food and smuggle it to Ukraine or Russia, where it is resold for a healthy profit across the border. It is now illegal to export food without a permit.

In fact, Belarus' problem is not so much that food is not available — privately run markets have abundant supplies of many staples — as that Belarusians cannot afford it.

In Minsk's jam-packed public market, state-owned meat vendors this month offered strips of gristly, bone-ridden beef for 170,000 rubles (between 40 cents and $2, depending on the exchange rate), the price dictated by the state. Directly across the aisle, private vendors were selling thick, lean steaks for 450,000 rubles.

*Material from the Associated Press was used in this report.*





# Russian, Belarus leaders discuss merging countries

By VLADIMIR ISACHENKOV
ASSOCIATED PRESS

MOSCOW — The presidents of Russia and Belarus agreed yesterday to take steps to merge the two former Soviet republics into a single state as early as next year.

Russian news reports said the proposed merger would be put to a public vote, but the text of the statement signed by Russia's President Boris Yeltsin and Belarus' President Alexander Lukashenko called only for "public discussion."

The presidents said they would move early next year to introduce a single currency and harmonize taxes — without waiting for popular approval for the merger, which presumably would also require constitutional changes in Russia.

The authoritarian Lukashenko, who has been widely criticized in the West for his crackdown on the opposition and the independent news organizations, has pushed for uniting his nation of 10 million people with Russia's 147 million people.

"We are now calling for merging our nations in one union state," Yeltsin said yesterday at a news conference after the meeting in the Kremlin. "We can be proud of such work."

Lukashenko said, "God help us to enter the next millennium as a single state."

The two leaders have long pledged to take further integration steps but have done little. In 1996, Lukashenko and Yeltsin signed a union agreement, boosting political, economic and military ties between the two nations — but stopping short of creating one state.

It was unclear whether yesterday's agreements will be implemented because many Russian politicians oppose a merger.

Top Russian officials said there is no immediate plan to merge the two nations' armed forces or pool the government coffers.

The Russian government, struggling with the worst economic crisis since the Soviet collapse, has been lukewarm on the merger with even poorer Belarus.

Lukashenko wants a merger to solve Belarus' economic problems, which have already led to food rationing in some regions. The Belarusian economy is one of the most unreformed in the former Soviet Union, with almost all assets and markets under government control.

In an immediate step to ease Belarusian economic woes, Yeltsin and Lukashenko agreed to allow Russian and Belarusian companies to import goods from each other at domestic prices. The agreement is crucial for Belarus, which relies on Russia's energy resources and has run up a huge debt.

Apart from the economic interests, many politicians in both nations believe the main motive behind Lukashenko's drive for union is his ambition to run for the Russian presidency in 2000.

Many Russian Communists and other hard-liners publicly hail the proposed merger, but fear the Belarusian president would push them to the sidelines if he joins Russia's presidential race.

In the Belarusian capital, Minsk, the opposition charged that Lukashenko was pushing the merger to stage a Russian presidential campaign.

About 20 activists from opposition and human rights movements tried to block a road in central Minsk to protest the merger. Police beat protesters and detained them all, said a popular front leader, Anatoly Krivorot. An elderly man was injured in the scuffle, Krivorot said.

# СЕМ ГАДОЎ ПАСЬЛЯ РАЗВОДУ

## Чаму эканамічны крызіс у суседніх Беларусі і Расіі не адбіўся на жыцці літоўцаў

Тое, што Беларусь і Літва выбралі розныя шляхі развіцця і з кожным годам становяцца ўсё больш не падобнымі адна на адну, заўважаеш ужо на мяжы — напрыклад, на галоўным беларуска-літоўскім пераходзе «Каменны Лог» («Мядзінінкай»).

На літоўскім баку за кароткі час выраслі сучасныя тэрміналы для мытнага і памежнага кантролю за пасажырамі і грузамі. Усе пабудовы і па дызайну, і па якасці не саступаюць падобным збудаванням дзе-небудзь у Скандынавіі ці Германіі: тыя ж «еўраадздзелка», «шклопакеты», чырвоная цэгла і чарапіца. Пасажыры для кантролю запрашаюцца ва ўтульны зал. Сам кантроль з дапамогай сучаснай тэхнікі праводзіцца за лічаныя хвіліны.

На беларускім баку мяжы падобныя функцыі выконваюць аляпаватыя і безгустоўныя металічныя або фанерныя будкі, ці проста сталы-нары пад навесам для агляду багажу.

Нядаўняя сустрэча прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Валдаса Адамкуса адбылася, натуральна, у літоўскай частцы пагранічнага перахода. На нашым баку ніводная будка прадстаўнічых дэлегацый проста не ўмясціла б.

Літва будавала тэрмінал не за свае грошы: усе работы фінансаваў Еўрапейскі саюз. Што зусім лагічна, паколькі ў хуткім часе Мядзінінкай стане памежным пераходам усяго Еўрасаюза, у якім унутраных кантралюемых межаў, як вядома, няма. Каменны Лог таксама з'яўляецца крайнім пагранічным пунктам мытнага саюза СНД і Саюза Беларусі і Расіі. Аднак абяцаных грошай з Масквы на абсталяванне па сутнасці агульнай мяжы мы чакаем да гэтага часу.

Жыццё простых людзей па абодва бакі мяжы таксама з кожным годам становіцца ўсё больш адрозным. У Ашмянах аўтобус, што ідзе з Мінска ў Вільнюс, запаўняецца мясцовымі цёткамі, якія наперабой просяць пасажыраў пасадзейнічаць перапраўцы праз мытню пляшкі-другой гарэлкі. Вязуць яны не толькі гарэлку, а і сякі-такі харч, які можна выгадна прадаць на віленскіх рынках, — асабліва яйкі.

Гэты пенсіянерскі бізнес апошнім часам сутыкаецца з мноствам перашкод: яйкі ды іншае харчаванне стараюцца адабраць нашы мытнікі, «лішнюю» гарэлку — літоўскія. Так што самадзейны гандаль звязаны з рызыкай і нервовымі нагрузкамі. Затое з кожнай пляшкі, якую ўдаецца пераправіць у Вільню, беларуская пенсіянерка атрымлівае 1 далар чыстага прыбытку. Так што нават пры легальнай норме (1 літр гарэлкі на чалавека) ашмянская бабуля, якой не трэба траціцца на візы (беларуска-літоўскае пагадненне прадугледжвае спрошчаны парадак перасячэння мяжы для «прыгранічных» пенсіянераў), за некалькі паездак у Вільню здольна выручыць грошай больш, чым плаціць родная дзяржава ў выглядзе пенсіі.

Эканамічны крызіс, якім ахоплена Беларусь і іншыя краіны СНД, на жыцці літоўцаў амаль не адбіўся. У любым абменным пункце валюты ў Вільні як і год, і два, і тры гады таму за 1 долар вам дадуць 4 літы. Гэта не азначае, што ў краіне няма інфляцыі. Яна ёсць, аднак на нашым фоне выглядае непраўдападобна мізэрнай: за 10 месяцаў 1998 года інфляцыя склала 1,8 працэнта. Прычым у асобныя месяцы назіралася зніжэнне цэн. Для прыкладу, у кастрычніку, у той самы час, калі наш спажывецкі рынак быў ахоплены панікай, літоўскія вытворцы харчавання вымушаны былі з сумам канстатаваць, што іх прадукцыя падае ў цане: малочныя прадукты сталі таннейшыя на 1,5-2 працэнты, рыбныя кансервы — на 3,2 працэнта, ялавічына — на 2,9 працэнта. На працягу ўсяго года назіралася зніжэнне цэн на муку, а ў кастрычніку яна патаннела яшчэ на 3,1 працэнта. Затое рэзка падаражэлі яйкі (адразу на 15,7 працэнта), а таксама курыныя ножкі (на 0,9 працэнта). Так што танныя ашмянскія яйкі ў Вільні, натуральна, карыстаюцца попытам. (Пры гэтым варта мець на ўвазе, што сярэдняя зарплата ў Літве сёння вагаецца ў межах 200 долараў).

Паліцы харчовых магазінаў у Літве амаль нічым не адрозніваюцца ад заходнееўрапейскіх. Праўда, прыкметна, што масавы пакупнік аддае перавагу ўсё ж сваім, мясцовым прадуктам, больш даступным па цане. Пры гэтым і па асартыменту, і па ўпакоўцы літоўскае харчаванне нічым не саступае заходняму: большасць перапрацоўчых прадпрыемстваў сталі акцыянернымі таварыствамі, правялі рэканструкцыю з удзелам замежнага капіталу. Паказальна, што на ўпакоўцы многіх літоўскіх прадуктаў (кансервы, масла, кандытарскія вырабы) пасля працяглага перапынку зноў з'явіліся надпісы на рускай (і нават на ўкраінскай) мовах. Гэта азначае, што мясцовыя вытворцы актыўна вяртаюцца на харчовыя рынкі СНД.

Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што расійскі эканамічны і фінансавы крызіс на літоўскай эканоміцы фактычна не адбіўся. Літ застаўся стабільным, прамысловая вытворчасць за 10 месяцаў гэтага года ў параўнанні з такім жа леташнім перыядам узрасла на 11 працэнтаў і працягвае заставацца на пад'ёме.

Цікава, што пры гэтым адносіны Вільнюса з Еўрасаюзам зусім не такія бясхмарныя, як часам здаецца ў Мінску або Маскве. Ды і знешнепалітычная арыентацыя суседняй краіны зусім не такая аднабаковая, як прынята лічыць у нас. Красамоўны факт: прэм'ер-міністр Літвы Гедымінас Вагнорус, выступаючы на нядаўнім пасяджэнні сейма са справаздачай урада, заявіў, што краіна мае намер унесці некаторыя карэктывы ў сваю знешнюю палітыку. У цэлым Літва не адмаўляецца ад стратэгічнай мэты — уступлення ў Еўрасаюз і НАТО, аднак, паводле слоў прэм'ера, рабіць гэта будзе не любой цаной, а толькі ў інтарэсах дзяржавы і сваіх грамадзян. Ранейшы энтузіязм уладаў, якія імкнуліся як мага хутчэй распачаць перамовы з ЕС і НАТО і апярэдзіць іншых кандыдатаў, прызнаны празмерным. Пэўныя сілы, у тым ліку і на Захадзе, як заўважыў сп. Вагнорус, **«спрабуюць дасягнуць сваіх мэтаў, што супярэчаць інтарэсам Літвы»**. У якасці прыкладу ён назваў патрабаванне Захаду датэрмінова закрыць Ігналінскую атамную электрастанцыю.

Ігналінская АЭС, размешчаная фактычна на мяжы Літвы і Беларусі, мае асаблівае значэнне для абедзвюх нашых краін. Дзякуючы гэтай станцыі Літва не толькі цалкам задавальняе ўласныя патрэбы ў электраэнергіі, але і мае магчымасць актыўна экспартаваць яе — у прыватнасці, у Беларусь. Наша краіна ахвотна купляе літоўскую электраэнергію, паколькі гэта значна танней, чым выпрацоўваць яе на ўласных цеплавых станцыях, спальваючы дарагія газ і нафту. Праблема, аднак, у тым, што ў Беларусі хранічна не хапае валюты, каб своечасова аплачваць гэтыя пастаўкі.

У выніку наш доўг за ігналінскую электраэнергію перавысіў 200 мільёнаў долараў. Беларусь стала найбуйнейшым даўжніком Літвы і пакуль невядома, якім чынам здолее разлічыцца. У многім менавіта гэтай праблемай была абумоўлена нядаўняя сустрэча двух прэзідэнтаў на мяжы ў Мядзінінкаі.

Беларусь і Літва, якія стагоддзямі жылі ў адной дзяржаве і ў якіх у 1991 годзе былі амаль аднолькавыя стартавыя магчымасці, выбралі розную будучыню, розныя арыенціры. Назіраючы за сённяшнімі беларускімі рэаліямі і параўноўваючы іх з рэаліямі літоўскімі, цяжка назваць беларускі выбар абсалютна аптымальным. Зрэшты, заўсёды застаецца магчымасць выкарыстаць суседскі вопыт — была б палітычная воля своечасова прызнаваць дапушчаныя памылкі.

«Звязда» **Валянцін ЖДАНКО.**
Мінск — Вільнюс.

# НЕЛЬГА ПРЫНІЖАЦЬ СВОЙ НАРОД

Леанід КРАЎЧУК, былы прэзыдэнт Украіны, адказвае на пытаньні аглядальніка Вадзіма Казначэева

*Першы прэзідэнт незалежнай Украіны Леанід КРАЎЧУК нарадзіўся ў 1934 годзе. Па адукацыі ён эканаміст, кандыдат навук. Пасля заканчэння Кіеўскага універсітэта працаваў выкладчыкам у Чарнавіцкім фінансавым тэхнікуме. У 1960 г. перайшоў на партыйную работу, праз 10 гадоў уваходзіць у рэспубліканскі ЦК.*

*Падчас перабудовы, у 1989 г., становіцца членам саюзнага Палітбюро. У наступным годзе яго абіраюць старшынёю Вярхоўнага Савета Украіны. У 1991 г. на Украіне адначасова праводзяцца рэферэндум аб дзяржаўнай незалежнасці і прэзідэнцкія выбары, у выніку якіх Л.Краўчук стаў на чале новай суверэннай дзяржавы. У 1994 г. ён прайграў датэрміновыя выбары Леаніду Кучме, аднак не пакінуў актыўную палітычную дзейнасць. Цяпер Л.Краўчук узначальвае Дзяржаўную камісію па адміністратыўнай рэформе і з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнай Рады ад адной са шматлікіх сацыял-дэмакратычных партыяў Украіны.*

«НАВІНЫ»

**— Давайце, Леанід Макаравіч, пачнем гутарку з міжнароднай палітыкі. Як вы ацэньваеце зносіны паміж украінскім кіраўніцтвам і афіцыйным Мінскам?**

— Прэзідэнт Беларусі чамусьці дазваляе сабе надта непаважліва выказвацца наконт нашых крокаў у дачыненні да NATO, нашай пазіцыі па канфлікце ў Косаве і іншага. Я разумею, што спадар Лукашэнка не мае ніякага вопыту дыпламатычнай работы, але нават нармальны селянін (калі ён нармальны), проста кіруючыся сялянскай мудрасцю, ніколі не будзе лаяцца на свайго суседа і лезці ў ягоныя справы. Таму мне складана вызначыць, якой мудрасцю кіруецца прэзідэнт Беларусі, даючы безапеляцыйныя ацэнкі ўкраінскім палітыкам і палітыцы.

Дарэчы, гэткім жа чынам Лукашэнка паводзіць сябе і ў паездках па рэгіёнах Расіі. Такое можа сабе дазволіць свабодны журналіст ці, скажам, палітык без «дзяржаўнай шапкі». А прэзідэнт не павінен дазваляць сабе такога. Гэта кепска характарызуе не толькі асабіста яго, але кідае цень і на народ, які ён прадстаўляе. Бо пра народ складаецца ўражанне ў тым ліку і па яго кіраўніках. Я бываў шмат разоў у Беларусі — там жыве цярплівы, разумны, спакойны, таленавіты народ, які любіць сваю зямлю. І нельга абражаць і прыніжаць свой народ такімі нязграбнымі крокамі. Палітыку, тым больш кіраўніку дзяржавы, трэба памятаць, што залішнія эмоцыі, гэтакая разухабістая пазіцыя — маўляў, я магу каму заўгодна сказаць што хачу — прыносіць толькі шкоду. Можна, канешне, на базары ўсё можна. Але міждзяржаўныя адносіны — гэта не таўкучка, а ты не зазывала, а прэзідэнт.

**— Пакуль Лукашэнка застанецца ля ўлады — ці будзе гэта неяк замінаць развіццю беларуска-ўкраінскіх адносінаў?**

— Ведаеце, мы глядзім на гэта даволі паблажліва. Мы бачым, што чалавек нявопытны, яму бракуе палітычнай культуры, разумення элементарнай этыкі. Бывае, разумееце, у жыцці такое: толькі паглядзіш на чалавека — і яму даруеш. Як кажуць у народзе, нельга крыўдзіцца на... людзей, якія не разумеюць, што твораць. Таму ў выпадку з беларускім прэзідэнтам, калі ён выскоквае і выказваецца, як на калгасным сходзе, за кожным разам дасылаць нейкія ноты, як-небудзь рэагаваць — немэтазгодна, бо гэта проста не заслугоўвае ўвагі.

Я даўно працую ў кіраўніцтве Украіны, і лічу, што адносіны з беларускім народам павінны быць самымі блізкімі, шчырымі і празрыстымі.

**— Лукашэнка неаднаразова выказваў ідэю аб «траістым саюзе славянскіх народаў»: маўляў, Беларусь з Расіяй інтэгруюцца, і няблага б Украіне да гэтай справы далучыцца. Якое ваша стаўленне?**

— Пакуль што ад гэтай інтэграцыі ніякага плёну не відаць. Расія ставіць пытанне ясна: вы хочаце мець адну дзяржаву або дзве? Лукашэнка, як кажуць у Адэсе, хоча жыць «среди тут и между там». Ён шмат гаворыць пра інтэграцыю, скарыстоўвае настальгію па Савецкім Саюзе, — але яму хочацца быць правадыром свайго народа (па ім бачна, што яму падабаецца быць правадыром), а не губернатарам.

Што тычыцца «траістага саюза», дык наколькі Расія — славянская дзяржава? Па складзе насельніцтва Польшча ці Балгарыя больш славянскія за Расію. Чаму ж «саюз славян» павінен складацца толькі з трох краінаў? Але рэч не ў гэтым, а ў тым, што замкнёныя саюзы па нацыянальным прынцыпе, па-першае, недаўгавечныя, а па-другое, заўжды могуць спараджаць міжнацыянальныя праблемы.

Таму я не падтрымліваю славянскага саюза. Я — за эканамічнае супрацоўніцтва. Але без дыктату і без панібрацтва. Супрацоўніцтва павінна ажыццяўляцца на аснове раўнапраўя. А не такім чынам, як, напрыклад, быў створаны ў рамках СНД эканамічны камітэт: 50 працэнтаў галасоў — Расія, 50 працэнтаў — усе астатнія. Міжнародны прынцып: адна краіна — адзін голас. Я, памятаю, казаў прэзідэнту Ельцыну: «Што ж гэта за падыход?» А ён: «Ды мы нясем вялікую нагрузку». Ну то і нясіце, не прапануйце тады ніякіх саюзаў, навошта вам яшчэ гэткую бяду на сябе браць?

**— Калі вы кажаце пра ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва, як я зразумеў, гаворка ідзе не пра тое, каб браць пад сумнеў суверэнітэт Украіны?**

— Ні ў якім выпадку. Мы лічым, што пытанне дзяржаўнасці з'яўляецца для Украіны гістарычным. Мы гэты шанец скарысталі, і вяртання да мінулага не будзе. Які б там ні былі эканамічныя і палітычныя саюзы, ні на грош не павінна быць саступкі ў плане нацыянальных інтарэсаў, нацыянальнай бяспекі і дзяржаўнай незалежнасці. Гэта не таму, што мы такія нацыянальна абмежаваныя. Але з гісторыі вядома, што народ можа быць свабодным толькі ў сваёй дзяржаве, будаваць сваё жыццё, як ён жадае, а не як яму будзе навязваць нехта звонку. А калі кіраўнік дзяржавы ганарыцца тым, што вось, маўляў, які я смелы і рашучы, гатовы аддаць частку суверэнітэта, калі ён не паважае нацыянальную мову і культуру — гэта гістарычны нонсэнс.

**— Вы цяпер не кіраўнік дзяржавы — і можаце сабе дазволіць выказацца наконт унутранай палітыкі, якая праводзіцца ўладамі Беларусі.**

— Я заўважыў, што Лукашэнка крытыкуе рынак, выступае за планавае вядзенне гаспадаркі, сацыяльную роўнасць і г.д. Але сваю ўладу ён добра скарыстоўвае для паляпшэння ўласнага дабрабыту за дзяржаўны кошт. Беларускі народ, на жаль, жыве бедна. А Лукашэнка мае некалькі рэзідэнцыяў, на «Волзе» не ездзіць і рэйсавымі самалётамі не лётае. Прэзідэнт Турцыі нядаўна наносіў візіт на Украіну менавіта на рэйсавым самалёце — а Турцыя ж багацейшая за Беларусь. Словы адны, а справы зусім іншыя. Людзі ж не сляпыя, павінны бачыць гэты фальш і разумець гэтую гульню. Але ідзе абалваньванне беларускага народа, які паверыў, што «бацька» абараняе яго.

Беларусь выгналі з Савета Еўропы, зрабілі беларускіх чыноўнікаў «персонамі нон грата». Для цывілізаваных грамадзянаў Беларусі, я мяркую, гэта глыбокае прыніжэнне. Для кіраўніка дзяржавы — тым больш. І калі ён гэтага не разумее — значыць, ён не дарос да лідэра, а народ, абраўшы яго, дапусціў памылку. Кажуць, быццам «народ не памыляецца» — гэта няправільная формула ў прынцыпе. Колькі мы бачылі, як ён памыляецца ў самых розных краінах. Дык што ж, памылкі трэба выпраўляць.

**— Але нават сапраўды дэмакратычныя выбары яшчэ не сведчаць пра наяўнасць дэмакратыі. Дэмакратыя — гэта ж не толькі, што большасць прагаласавала. Гэта яшчэ і магчымасць беспераШкодна выказваць свой пункт гледжання апанентам, не асцерагаючыся ніякіх рэпрэсіяў, і яшчэ многія рэчы, якіх, на жаль, у нас няма.**

— І на Украіне таксама гэ-

Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"!
Калі ласка, не забывайце перасылаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...
Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!

 



тая новая дэмакратыя шмат у чым выклікае ў мяне глыбокае расчараванне. Трэба прайсці яшчэ многа, каб пра гэта пісалі, гаварылі, вучылі ў школах. Урэшце, павінна змяніцца пакаленне. Цяперашняе пакаленне нясе на сабе ўсе рысы былога ладу, былой ідэалогіі, і яно не ў стане вызваліцца ад гэтага, каб дэмакратычныя прынцыпы ўзялі верх. І да ўлады павінны прыйсці людзі іншай генерацыі.

У тым і сутнасць дэмакратыі, каб кожны мог выказаць свой пункт гледжання, нават калі большасць з гэтым нязгодная. Калі меншасць падаўляецца большасцю — гэта ўжо не дэмакратыя. Таксама не дэмакратыя — калі над кіраўніком няма ніякага кантролю, акрамя яго самога, калі ягонае самадурства нічым не абмежаванае. Гэта вельмі небяспечная рэч. Уладам нешта не падабаецца — забараніць! закрыць! пасадзіць! Калі нават гэтыя ўлады і абраныя большасцю — якая ж тут дэмакратыя? Іншая рэч, што крытыка павінна быць без абразаў — гэта нікога не ўпрыгожвае.

**— Разумееце, калі гаворка ідзе пра Беларусь, дык пэўныя рэзкасці ў адрас Лукашэнкі — гэта рэакцыя ў адказ. Сам Лукашэнка не ўмее прыстойна паводзіць сябе ў адносінах да апанентаў — таму ім таксама часам цяжка ўтрымацца ў рамках.**

— Я разумею — часам прыстасоўваешся да апанента, плаціш яму той жа манетаю. Калі ты бачыш, з кім маеш справу, дык сыпаць бісер перад свіннёю не хочацца. Але хтосьці павінен быць разумнейшым, хтосьці павінен спыніцца і праявіць культуру, высока ўзняць духоўную планку. Тым больш, што і беларуская, і ўкраінская, і руская мовы — вельмі багатыя, і колькі ёсць слоў, якімі можна і моцна ўдарыць, і высмеяць. А да ўзроўню базарнай сваркі апускацца не варта.

Я таксама мушу весці дыскусіі са сваімі апанентамі, і заўсёды стараюся рабіць гэта на прыстойным узроўні. Часам зрываешся — бо вакол лямант, абразы, на цябе глядзяць жудаснымі вачыма, у якіх не бачна ніводнай іскрынкі думкі, а толькі дзікунскія інстынкты ды злосць. Але людзі, якія ўзялі на сябе адказнасць будаваць дэмакратычную, цывілізаваную, прававую дзяржаву, павінны вырашаць гэтую задачу рознымі сродкамі — у тым ліку і манерыю весці дыскусію, нягледзячы ні на якія цяжкасці. Тады і народ не будзе выбіраць прэзідэнтамі людзей, на якіх сорамна глядзець.

**— Пракуратура Беларусі прапанавала ўнесці асобны артыкул у Крымінальны кодэкс — аб абароне гонару і годнасці прэзідэнта. Абвостранае ўспрыманне ўласнай недатыкальнасці.**

— Калі я быў прэзідэнтам, колькі разоў у зале парламенту прапаноўвалі ўвесці гэткі ж артыкул на Украіне! Я быў катэгарычна супраць. Чаму ж гэта аднаго чалавека асобна абараняць? Што, прэзідэнт — гэта цар і Бог? З падобных рэчаў вырастае ўсё астатняе. Кожнае слова можа быць выпрабаванае на той прадмет, ці абражае яно прэзідэнта. Тым больш ва ўмовах, калі няма незалежнага суда, калі суддзі кіруюцца дырэктывамі. Далей застаецца хіба што помнікі пры жыцці ставіць.

**— Як на вашую думку: ці можна сказаць, што курс Украіны ў еўрапейскія структуры, на рынкавую эканоміку, дзяржаўную незалежнасць — ужо незваротны? Я нядаўна сустракаўся з «левымі» дэпутатамі Вярхоўнай Рады, якія станоўча ацэньвалі ідэю рэстаўрацыі Савецкага Саюза ў той ці іншай форме. А парламент у вас цяпер досыць «чырвоны».**

— Абсалютнай большасці ў парламенце ў «чырвоных» няма. Гэта выключана, каб яны перамаглі пры вырашэнні такіх кардынальных пытанняў.

**— Але ж гэта рэч хісткая. Ну, адбудуцца наступныя выбары, і раптам камуністы атрымаюць большасць. Ці сацыяліст Аляксандр Мароз стане прэзідэнтам...**

— Усё адно гэты курс незваротны. Ужо часткова ўтварыўся сярэдні рынкавы клас. Гэта слой людзей, якія маюць уласнасць, распараджаюцца і карыстаюцца ёю. Ужо прайшла малая і сярэдняя прыватызацыя, зараз ідзе вялікая. Мы ўвайшлі ў еўрапейскія структуры, падпісалі шэраг пагадненняў з *NATO*. На падставе і ўнутраных пераўтварэнняў, і знешняга кантэксту я магу ўпэўнена сказаць, што небяспекі страты незалежнасці няма і павароту ад Еўропы, ад рынкавай эканомікі — назад да камунізму — не адбудзецца.

Калі прэзідэнтам стане Мароз, ён можа пайсці на саюз з Расіяй, але зусім не на такі, як Лукашэнка. Ён паспрабуе пашырыць сувязі, заключыць нейкія пагадненні. Але не пойдзе на саюз з пагрозай для незалежнасці і нацыянальнай бяспекі. І гэта не з прычыны ягоных перакананняў. Проста кожны, хто хаця трохі арыентуецца ў сітуацыі, разумее, што паварот у палітыцы, пра які вы казалі, прывядзе на Украіне да канфлікту вельмі вялікага маштабу з цяжкімі наступствамі.

*Гутарыў*
**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**




*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*



# За што нас любяць у Расіі

*Народная Воля*

Перыядычны друк Расіі ў адрозненне ад нашага вельмі шмат увагі надае асвятленню сучасных праблем нацыянальнай культуры. Вось ужо не першы год ў яе сталіцы выдаецца інфармацыйна-аналітычны зборнік "Русская культура вне границ". Нам бы нешта падобнае хаця б унутры межаў сваёй краіны, а не яшчэ і па-за імі, бо становішча і беларускай нацыянальнай культуры, і беларускай мовы на іх этнічнай тэрыторыі архітрагічнае. Было б што па гэтых надзённых пытаннях сказаць не толькі культуролагам, мовазнаўцам, палітолагам, але і дзяржаўным дзеячам, бо, што й казаць, ад апошніх таксама залежыць, якім па сваёй трываласці з'яўляецца нацыянальны патэнцыял духоўнага жыцця краіны.

Але вернемся да зборніка "Русская культура вне границ". Усе яго выпускі за гэты год надзвычай цікавыя. Паразважаем жа наконт трэцяга. Пачынаецца ён з рубрыкі "Жизнь русских и славянских общин", якую адкрывае невялікі артыкул прэзідэнта Расійскага фонду культуры Мікіты Міхалкова пад назвай "Разрушив мост, не найти брода". Яго аўтара лёгка зразумець, калі ён бядуе пра страту пазіцый рускай культуры і мовы на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік, хаця тут было б дарэчы хоць некалькімі словамі падкрэсліць, што гэтыя пазіцыі забяспечваліся мэтанакіраванай палітыкай дзяржаўнага, а не добраахвотнага пацяснення нацыянальных культур і моў з іх законнага месца дзеля стварэння нейкіх міфічных агульнасавецкіх духоўных каштоўнасцей, збліжэння і зліцця нацый і народнасцей СССР у новую гістарычную супольнасць — савецкі народ як пераходную ступень безнацыянальнага камуністычнага грамадства.

У наступных артыкулах аўтары расказваюць пра праблемы рускай культуры, адукацыі і мовы ў Азербайджане, Латвіі, Літве, Таджыкістане, Арменіі. Адзначаецца, што ў некаторых з іх па-ранейшаму рускі фактар адыгрывае вялікую ролю ў духоўным жыцці не толькі рускага народа, але і самога карэннага насельніцтва. Аднак агульнай тэндэнцыяй для ўсіх пералічаных краін з'яўляецца паступовае звужэнне ў іх рускай прасторы, што з вельмі вялікім болем у душы ўспрымаюць аўтары.

Праўда, іншым разам яны льюць слёзы з такой нагоды, якая нацыянальна самасвядомымі беларусамі, наадварот, прымалася б за велізарную радасць, бо наша культура, адукацыя і мова на сваёй гістарычнай тэрыторыі знаходзяцца ў куды больш цяжкім становішчы, чым гэтыя рускія адпаведнікі ў большасці былых саюзных рэспублік. Да прыкладу, у Вільнюсе сёння 30 рускамоўных агульнаадукацыйных школ!!! А цяпер давайце палічым, колькі ў сталіцы суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь беларускіх агульнаадукацыйных школ. Нуль!!! Во дзе трэба ліць слёзы! Во дзе трэба біць у званы, крычаць немым голасам пра дзяржаўную палітыку генацыду ў дачыненні да нацыянальнай сістэмы адукацыі! Ёсць рускамоўныя агульнаадукацыйныя школы і ў такіх адносна невялічкіх літоўскіх гарадах, як Клайпеда (11 адзінак), Вісагінас (4).

У гэтым выпуску інфармацыйна-аналітычнага зборніка "Русская культура вне границ" тры абзацы прысвечаныя Беларусі. Называюць яе "самой "русской" страной бывшего СССР". Не без радасці адзначаецца, што калі ў 1989 г. на Беларусі жыло 1.355.600 рускіх, дык у 1998 г. — ужо каля 2 мільёнаў. Каму-каму, а нам, беларусам, добра вядома, за кошт якіх крыніц расла ў нас колькасць гэтай нацыянальнай групы. Перш за ўсё нямала ў яе ўлілося этнічных беларусаў, якія ў выніку дэфармацыі гістарычнай памяці, адрыву ад прыроднай нацыянальнай культуры і амаль поўнага няведання роднай мовы (за гэта яны павінны дзякаваць галоўным чынам нашай дэнацыяналізаванай знізу даверху сістэме адукацыі) добраахвотна адышлі ад сваёй нацыі і сталі залічваць сябе да рускай, бо былі ўзгадаваныя ў адпаведнасці з яе культурна-моўнымі традыцыямі. Такая нацыянальная метамарфоза аблягчалася яшчэ і тым, што паміж беларусамі і рускімі не так проста правесці антрапалагічнае адрозненне. Беларусь — гэта не Закаўказзе ці Сярэдняя Азія.

Другой істотнай крыніцай уцечкі беларускай этнічнай масы ў мясцовую рускую нацыянальнасць з'яўляліся і з'яўляюцца змешаныя беларуска-рускія сем'і. Толькі ў тых выпадках, калі беларуская палавіна такіх сем'яў не выраклася роднай культуры і мовы, новыя пакаленні лічаць сябе беларусамі. Такіх жа сем'яў у нас не дужа багата. Назіралася і такое, што ў змешанай сям'і адзін з бацькоў беларус, а другі сам ужо народжаны ў змешанай руска-яўрэйскай ці руска-ўкраінскай сям'і, аднак сваіх дзяцей запісвалі рускімі з той прычыны, што яны не валодалі ні беларускай, ні яўрэйскай, ні якой-небудзь іншай мовай, а толькі рускай.

Не памылюся, калі скажу, што раней добрая палова яўрэяў Беларусі пісалася ў нас рускімі. І зноў жа тлумачылі гэта тым, што ведаюць толькі рускую мову, вучыліся ў рускамоўных школах, тэхнікумах і інстытутах. Зусім інакш яўрэі вызначалі сваю нацыянальную прыналежнасць, калі толькі вырашалі па нейкіх прычынах адысці ад сваёй, у саюзных рэспубліках, карэннае насельніцтва якіх вызначалася трывалым прыродным грунтам духоўнага жыцця, змагло не даць выцесніць сваю родную мову рускай, як гэта спрэс назіралася і назіраецца на Беларусі. Так, у Грузіі мы знойдзем нямала яўрэяў, якія лічылі сябе за грузінаў, ва Узбекістане — за ўзбекаў, у Малдавіі — за малдаван, на Украіне — за ўкраінцаў. А вось на Беларусі з яе дашчэнту дэфарміраванай нацыянальнай прафесійнай культурай, выведзенай практычна з усіх сфер дзейнасці чалавека беларускай мовай яўрэй, свядома адмаўляючыся ад сваёй нацыі, запісваў сябе рускім, тлумачачы гэта пераходам на нацыянальную культуру і мову дадзенага народа. Цяпер у сувязі з пэўнымі пераменамі ў нацыянальным жыцці Рэспублікі Беларусь яе яўрэі паступова выпраўляюць дапушчаныя памылкі ў вызначэнні свайго этнічнага паходжання. Мо, дай Бог, з цягам часу пачнуць выпраўляць аналагічныя памылкі і дакументальна рускія беларусы.

Аднак прадоўжым разгляд матэрыялаў пра Рэспубліку Беларусь. Звяртае на сябе ўвагу фраза: "Из 10 миллионов населения только 100 тысяч не владеет русским языком и гораздо больше не говорит по-белорусски". Відаць, аўтару гэтых радкоў вельмі даспадобы такая моўная сітуацыя. А яна ж уяўляе велізарную пагрозу для будучага карэннай нацыі Беларусі з прычыны таго, што тут больш распаўсюджана руская мова, чым беларуская. Дзе сярод цывілізаваных краін знойдзеш такое, каб родная мова была выціснута якойсьці іншай. Нідзе, акрамя зрусіфікаванай Беларусі, прычым да такой крытычнай адзнакі, што нават дзяржаўныя дзеячы, самыя элітарныя пласты інтэлігенцыі не бачаць у гэтым рэальнай пагрозы ні для саміх сябе, ні для свайго народа. Моўныя справы на Беларусі, цвердзяць яе палітыкі, у поўным ажуры!

Не спіць з-за іх толькі невялічкая жменька нацыяналістаў у бальшавіцкім разуменні сэнсу гэтага слова.

Ёсць на што звярнуць увагу і ў другім абзацы невялічкага даведачнага артыкула пра наш край: "В Белоруссии все давно перемешалось, взаимопроникновение двух культур достигло максимума". Прачытаўшы такое, не ведаеш, ці радавацца, ці непакоіцца такой мешаніне культур на тэрыторыі мананацыянальнай дзяржавы Беларусі. Ну няма ж такога ні ў Польшчы, ні ў Чэхіі, ні ў Нямеччыне, ні ў Францыі... А гэта ж вельмі перадавыя ў культурных адносінах краіны. У іх калі і ёсць штосьці ад іншых культур, дык толькі ў выглядзе спецыяў да асноўнай духоўнай стравы. А ў нашай такой страве ўжо ўсё перамяшалася, што і пад мікраскопам цяжка заўважыць у ёй беларускія рысы. Інакш, відаць, і быць не можа, бо ў нас "взаимопроникновение двух культур достигло максимума". Толькі вось ці можна тое, што адбываецца на нашай зямлі з беларускай і рускай культурамі, падвесці пад паняцце "взаимопроникновение". Звычайна ім характарызуюць культурны ўзаемаабмен паміж дзвюма ці некалькімі краінамі. А калі культурныя каштоўнасці ідуць толькі з краіны "А" ў краіну "Б" і на яе этнічнай тэрыторыі забяспечваюць сабе трывалыя сталыя пазіцыі за кошт выцяснення мясцовай культуры, дык гэта ўжо не "взаимопроникновение" (думаю, што ў Расіі ніхто не карыстаецца такім тэрмінам у дачыненні да якіх-небудзь культур суседніх краін, у тым ліку і беларускай), а культурная экспансія з яе непазбежным зыходам — культурна-моўнай асіміляцыяй. Пагроза апошняй яшчэ больш узрастае, калі да яе прыхільна ставяцца ўлады народа, які трапіў у асіміляцыйную пастку.

Рэдакцыю маскоўскага інфармацыйнага зборніка "Русская культура вне границ", несумненна, цалкам задавальняе і наступнае месца з другога абзаца разглядаемай мною даведкі: "Если в начале 90-х годов преподавание велось преимущественно на белорусском языке, то теперь в большинство институтов вернулся русский". Гэта незвычайна радуе многіх палітыкаў і інтэлектуалаў Расіі, і яны гатовыя ад такой удачы крычаць "Ура!", разумеючы, што цяпер маладыя пакаленні здольных да ведаў беларусаў замест таго, каб пасля заканчэння інстытутаў стаць сапраўды элітарным ядром свайго народа, не будуць адыгрываць такой ролі, бо навучаюцца і выхоўваюцца паводле рускіх педагагічных і культурнамоўных традыцый, што непазбежна разбурае беларускі менталітэт.

Добра ведаючы, што прынесла, нясе і яшчэ прынясе руская мова ў інстытутах Беларусі, усё ж не магу не выказаць самага шчырага пажадання, каб нідзе і ніколі ў інстытуты Расіі не прыйшла ў якасці асноўнай рабочай мовы англійская, у інстытуты Польшчы — нямецкая, Францыі — італьянская, Італіі — іспанская і г.д. Гаспадарыць у такіх і ва ўсіх іншых тыпах навучальных устаноў павінна толькі нацыянальная мова тытульных народаў, што даўно стала традыцыяй для ўсіх цывілізаваных і суверэнных краін. Вучыся ж, Беларусь, у іх! Не сумняваюся, калі б рускіх напаткала такая ж страшэнная моўная трагедыя, як і беларускі народ, яго інтэлігенцыя не злараднічала б, што іх дзяржаўная ўлада вядзе палітыку на далейшае абмежаванне ролі нацыянальнай адукацыі карэннага насельніцтва, зусім не клапоціцца пра выратаванне яго роднага слова.

Думка пра ўяўнае прыцясненне, дыскрымінацыю рускай мовы праводзіцца і ў трэцім, заключным абзацы даведкі пра Беларусь. Сцвярджэнне, што

 

"во времена Станислава Шушкевича активно насаждался белорусский язык", выклікае не больш як усмешку не толькі ў беларуса, але і ў рускага, што жыве ў нашым краі. Тым жа, хто не ведае сапраўднай тагачаснай моўнай сітуацыі, хацеў бы сказаць хоць такое, што пры Станіславу Шушкевічу не было створана аніводнай нацыянальнай беларускай вышэйшай навучальнай установы, не быў наладжаны выпуск аніводнай афіцыйнай беларускамоўнай газеты. Наадварот, шэраг беларускіх абласных, раённых афіцыйных газет сталі беларуска-рускамоўнымі з вялікім крэнам у бок рускай мовы. У пераважнай большасці гарадскія агульнаадукацыйныя школы, рэфарміраваныя з рускай мовы на беларускую мову, былі такімі толькі на паперы.

Відаць, неабгрунтаванае абвінавачванне суперпамяркоўнага ў нацыянальна-моўным пытанні палітыка С.Шушкевіча патрэбна было, каб наступным чынам прадоўжыць у давецы сказ пра Беларусь: "Зревшее среди русскоговорящих недовольство быстро превратилось в активное сопротивление". Чаму? Нацыянальна-культурнаму адраджэнню самабытнага славянскага народа на яго законнай гістарычнай тэрыторыі? Дзе ж тады былі яго высокай грамадзянскай адказнасці дзяржаўныя мужы, што дазволілі рускамоўным грамадзянам распачаць "активное сопротивление" гэтак актуальнаму, вялікай гістарычнай важнасці, святому Беларускаму Адраджэнню?! Відаць, такія мужы ў нас адсутнічалі. Затое хапала палітыкаў, якія нібыта чакалі — а то яшчэ і падбухторвалі недасведчаных у нацыянальна-культурным, моўным пытанні людзей, — што вось-вось павінен узнікнуць лінгвістычны канфлікт і гэта дасць магчымасць ізноў вярнуць Беларусь у рускамоўнае рэчышча. І яе спрытна скіравалі сюды, толькі не з-за сапраўды якога-небудзь актыўнага супраціўлення рускамоўных, а па волі саміх дзяржаўных дзеячаў Беларусі, якія мову апошняй не разглядаюць як душу народа, найважнейшы кампанент яго духоўнага развіцця, аднаўлення нацыянальнай самасвядомасці, а глядзяць на мову (вядома, рускую) як сродак самай цеснай эканамічнай, палітычнай і культурнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй.

У такіх сваіх развжаннях я ніколькі не разыходжуся з тым, пра што далей пішацца ў трэцім абзацы даведкі пра наш край.

Зрабіўшы акцэнт на актыўным супраціўленні рускамоўных людзей, аўтар затым працягвае: "Этим талантливо воспользовался в своей предвыборной кампании тогдашний кандидат в президенты Александр Лукашенко. Сегодня он — поборник славянской идеи и всего русского (вось так "русского", а не беларускага!). Именно на этих основах (чытай: славянскіх і рускіх, але толькі не беларускіх) строится государственная политика. Урок не прошел даром, и сегодня даже белорусская национально настроенная элита признает, что поднимать вопрос языка можно будет только тогда, когда до этого дозреет русскоязычное общество". І на гэтым я стаўлю кропку, бо лічу сэнс прыведзенай цытаты да такой ступені даступным разуменню ўсіх і кожнага, што не варта тут рабіць аніякага аналізу. Чытач і без мяне павінен разабрацца, на чыім баку праўда.

Думаю, дасканала разабраўся чытач і з прычынамі вялікай любові ў Расіі да сваёй заходняй суседкі Беларусі. Хто зведвае пэўныя цяжкасці, дапамагу: за паслядоўнасць у далейшым умацаванні рускіх стандартаў у духоўным жыцці нашай краіны, дзеля паглыблення працэсаў асіміляцыі яе карэннага насельніцтва, за мэтанакіраванае абмежаванне сферы распаўсюджання беларускай нацыянальнай культуры і мовы, якія разглядаюцца як самая сур'ёзная этнічная перашкода на шляху ўсёбаковай інтэграцыі гэтых дзвюх славянскіх дзяржаў.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ! Калі ласка, не забывайцеся перасылаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд «Беларускага Дайджэсту»...**

# «Многія пэрсанажы — гэта я сам...»

На выставе маладога мастака Анатоля Упарта ў Першай Беларускай галерэі.



Вялікую ўвагу імігранцкай дыяспары і аматараў мастацтва ў Чыкага выклікала нядаўняя пэрсанальная выстава маладога мастака Анатоля Упарта, якую сам мастак назваў "Пераасэнсаваньне авангарду".

Яго жывапіс вызначаецца перш за ўсё кідкай дэкаратыўнасьцю. Як вітраж у акне, мазаіка альбо фрагмэнты дывана на сьцяне. Гэтыя крышталі, клетачкі, ячэйкі ўсіх колераў і адценьняў прыгожыя самі па сабе. Анатоль Упарт з такіх фрагмэнтаў і стварае свае карціны, прыкладна так, як пчолы з сотавых ячэяк увесь вулей. Але давайце прыгледзімся ўважлівей да гэтых твораў, напісаных алеем па палатне і дрэву, і за ўяўным дэкаратыўным хаасам мы ўбачым не абструкцыю, а строгую тэматычную кампазыцыйную завершанасьць, рытм.

У аснове такой стылістыкі ляжыць успрыйманьне кожнага асяродзьдзя як аб'екта надзвычай насычанага ўнутраным драматызмам. Архітэктура і ўсё створанае чалавекам, людзі, жывёлы, нават сам пэйзаж нараджаюцца на палотнах мастака нібыта з пераадоленьня сілаў гэтага драматызму. Свое асаблівы мастакоўскі выклік запрашае ня толькі ўбачыць спалучэньне колераў і графічнай вязі крышталяў-клетачак, але і падумаць, паразважаць.

Тэматыка многіх карцінаў і графічных твораў Анатоля Упарта зьвязана з роднай Беларусьсю, з яе гісторыяй і культурай, з яе ландшафтам і незабыўнымі краявідамі старога Менску, з традыцыямі і легендамі зямлі продкаў. "Няміга", "Менск", "Вёска", "Дзяды", "Старыя кварталы Менску", "Паляваньне" — вось назвы некаторых твораў мастака. А побач — абрысы і рытмы іншых краінаў і земляў; італьянскія саборы, "Пакутніцтва сьвятога Варфаламея", "Апошняя вячэра"... Усё перамяшалася з нібыта магчымай толькі ў гэтыя гады разьняволенай свабодай; аўтару гэтых карцінаў толькі дваццаць два.

Выкананая ў рознай тэхніцы графіка Анатоля Упарта такая-ж драматычная па кампазыцыйных рашэньнях. Яна вылучаецца распрацаванасьцю лініяў, багатымі, падобнымі да жывапісных, адценьнямі чорнага колеру, блізкімі да жывапісу мастака матывамі барацьбы, унутранага пераадоленьня.

Анатоль Упарт прыехаў у Амэрыку з бацькамі ў 1993 годзе. У Менску вучыўся ў 26-й школе, што стала з 1991года мастацкім ліцэем. Многа маляваў, актыўна вывучаў гісторыю мастацтваў, фальклор. Вясной 1996 года ўдалося паступіць у школу-коледж Чыкагскага Арт-Інстытута, дзе Анатоль прадаўжае вучыцца і цяпер. Адначасова ён працаваў у рэстаўрацыйнай майстэрні, а цяпер — у бібліятэцы гэтага аднаго з буйнейшых у сьвеце музэяў. У сакавіку-красавіку 1997 году ўдзельнічаў у выставе ў холе Чыкагскай мэрыі, прысьвечанай Дню незалежнасьці Беларусі. У канцы 1997 і на пачатку 1998 гадоў колькі месяцаў разам з жонкай жыў у Італіі, вывучаў гісторыю жывапісу і рэстаўрацыйную тэхніку. Пабываў ува многіх гарадах і музэях гэтай краіны.

— Як склалася ў вас гэтая творчая манера, як вы прыйшлі да яе? — пытаюся ў Анатоля Упарта пасьля агляду экспазыцыі яго твораў.

— Аднойчы мне ў рукі трапіў альбом рэпрадукцыяў твораў Паўла Філонава, пра якога я раней нічога ня ведаў. Я быў узрушаны і незвычайна ўсхваляваны. Працягваючы маляваць далей, я ўвесь час думаў пра Філонава, пра Врубеля, у якога вучыўся сам Філонаў, пра іх манеру.

— Значыць, перш за ўсё — уплыў Паўла Філонава? Пераймáньне ў яго?

— Мне здаецца, што замест пераймáньня ў каго-небудзь з вялікіх папярэднікаў трэба проста зразумець іх і настолькі напоўніцца імі, каб адкрыць для сябе іх вытокі. Ня ведаю, як атрымліваецца, але я стараюся не пераймаць, а натхняцца. Вядома, зроблена яшчэ зусім нямнога, але я адчуваю прыцягненьне авангарднага мастацкага трохкутніка першых дзесяцігодзьдзяў дваццатага стагодзьдзя: Масква — Пецярбург — Віцебск. Адсюль, як мне здаецца, наогул усё лепшае ў беларускім выяўленчым мастацтве.

— Але-ж вы ўжо быццам-бы адарваны ад роднай глебы...

— Так, але ад яе не схавацца. Я гэта асабліва адчуў, калі пісаў карціну "Няміга", адну з першых маіх фігуратыўных кампазыцыяў. Я зразумеў, што нельга зьбегчы ад духоўнай настальгіі. У "Нямізе" я стараўся выказаць усё, што я ведаю пра Беларусь, пра яе народ, гісторыю, культуру, уклаўсці ў твор усе мае пачуцці і веды, як у маніфэст, як у энцыклапедыю. У маім уяўленьні Беларусь — гэта ўсё ад Вялікага княства Літоўскага, адтуль. А наогул хочацца перадаць стан бесперапыннай барацьбы, пераадоленьня. Барацьбы чалавека ўнутры сябе і з іншымі людзьмі, народаў з народамі, людзей з жывёламі, духу з бездухоўнасьцю.

— А над чым вы працуеце цяпер?

— Я хачу напісаць карціну "Кавалькада". Бачу постаці коньнікаў на апустошаным ландшафце. Хочацца напісаць палатно, больш падобнае да дывана, чымсьці да карціны. Тэма тая-ж — барацьба чалавека з іншымі людзьмі і прыродай. Вобразы навеяны аповесьцю "Дзікае паляваньне караля Стаха" У. Караткевіча, некаторымі беларускімі кінафільмамі. Калі я чытаю гістарычныя раманы, трактаты, хронікі, мне часам здаецца, што многія пэрсанажы — гэта я сам, я настолькі разумею іх, што нібыта зьліваюся з імі. Вось іх мне і хочацца маляваць...

*Ванкарэм Нікіфаровіч,* Чыкага.

# По ініцыятыве менскіх краязнаўцаў на тэрыторыі БДУ ўстаноўлены помнікі Францішку Скарыну і Міколу Гусоўскаму

По ініцыятыве і на сродкі менскага гарадзкога грамадзкаасьветніцкага клуба "Спадчына" ва ўнутраным дворыку галоўнага корпусу Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ўстаноўлены помнікі беларускім асьветнікам эпохі Адраджэньня — першадрукару Францішку Скарыну (1490 — 1551 гг.) і паэтугуманісту Міколу Гусоўскаму (1470 —1553 гг.).

Аўтарам гэтага праекту зьяўляецца кіраўнік клуба "Спадчына", вядомы беларускі краязнаўца, калекцыянер і літаратар Анатоль Белы. Як вядома, гэтыя помнікі, створаныя скульптарамі Сяргеем Адашкевічам і Уладзімірам Панцялеевым, доўгі час не былі прадстаўлены для агляду, паколькі "Спадчына" і ўлады сталіцы не маглі прыйсьці да адзінага меркаваньня аб месцы іх усталяваньня.

Па словах А. Белага, з часам на гранітных пастамэнтах помнікаў зьявіцца бронзавае ліцьцё з вывай скарынінскага шрыфту, а таксама эпізода паляваньня на зубра з вядомай паэмы М. Гусоўскага "Песьня пра зубра". «Нам хацелася-б стварыць у двары БДУ своеасаблівы пантэон вядомых дзеячаў беларускай культуры, у якім маглі-бы быць прадстаўлены, для прыкладу, скульптурныя вывы першага рэктара БДУ Уладзіміра Пічэты, першага прэзыдэнта Акадэміі навук краіны Ўсевалада ігнатоўскага, "бацькі беларускай гісторыі" Мітрафана Доўнар-Запольскага і іншых славутых людзей нацыі», — сказаў Анатоль Белы.

Да слова, такая традыцыя існуе ў многіх эўрапейскіх унівэрсытэтах. Напрыклад, помнік Яну Гусу ўстаноўлены ў Прагскім унівэрсытэце, Міколу Капэрніку — у Ягелонскім унівэрсытэце Кракава, братам Гумбальдтам — у Бэрлінскім унівэрсытэце.

*Марат Гаравы,* БелаПАН.





## Дарагія Прыхільнікі і Сябры!

Дзякуючы Вашай фінансавай дапамозе, наша газэта выходзіла амаль рэгулярна... Просім нашых аднадумцаў і сымпатыкаў прыядноўваць нам новых чытачоў...

Гэтта друкуем СЬПІС нашых ахвярадаўцаў, якія ў 1998 годзе падтрымалі нашае выдавецтва.

**Усім Вялікае і Шчырае Дзякуй!**

Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры (US $)

У 1998 годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні:

**I.**

**Ахвяры ў суме $200.oo ці больш даль...**

1. Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у Кліўлэндзе $1.500.oo
2. Арганізацыя Беларускае Моладзі ў Чыкаго $1000.oo
3. Др. Мацьвей В. Смаршчок $510.oo
4. Натальля і Анатоль Лук'янчук $400.oo
5. Міхась Лужынскі (Аўстралія) $330.oo
6. Браніслаў Даніловіч $305.oo
7. Беларускі Дапамаговы Фонд у Лёндане (Англія) $250.oo
8. а. Міхась Бурнос (Аўстралія) $220.oo
9. Віктар Ліпскі (Аўстралія) $200.oo
10. Др. Уладзімір Набагез $200.oo
11. Мікола Сагановіч $200.oo
12. Ірэна Каляда-Сьмірноў $200.oo

**II.**

**Ахвяры ў суме $100.oo ці больш даль...**

13. Др. Барыс Рагуля (Канада) $170.oo
14. а. Алякс. Яноўскі (Канада) $170.oo
15. Мікола Сьнежко $150.oo
16. Якуб Сапяжынскі $150.oo
17. Паўлюк Гуз (Аўстралія) $135.oo
18. С. Будкевіч (Англія) $130.oo
19. Кацярына Вініцка $130.oo
20. Алена Сенько (Англія) $120.oo
21. а. Вячэслаў Ільчук $120.oo
22. Уладзімір Пелеса $110.oo
23. Кляра Кумэйша $100.oo
24. Міхась Каленік $100.oo
25. Ольга Дубаневіч $100.oo
26. Др. Язэп Сажыч $100.oo
27. Лёнгіна Брылеўска $100.oo
28. Вацлаў Меляновіч $100.oo
29. Др. Ян Запруднік $100.oo
30. Уладзімір Ракуць $100.oo
31. Мікола Вайтовіч $100.oo
32. Юзэфа Найдзюк $100.oo
33. Беларускі Грамадзкі Цэнтр у South River, N. J. $100.oo
34. Кастусь Вайцяхоўскі $100.oo
35. Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Кліўлендзе $100.oo
36. Пранціш Бартуль $100.oo
37. Ліза Літаровіч $100.oo
38. Надзя Касмовіч (Нямеччына) $100.oo
39. Надзя Бэрт (Нямеччына) $100.oo
40. Тамара Аўдзей (Нямеччына) $100.oo
41. Ірэна Цупрык $100.oo

**III.**

**Ахвяры ў суме $50.oo ці больш даль...**

42. Др. В. Міленцэвіч (Аўстралія) $95.oo
43. Марыя Кулагін $80.oo
44. Віталі Кажан $80.oo
45. Мікола Грэбень $80.oo
46. Элеанора Пітушка (Канада) $80.oo
47. Паўла Кулеш $80.oo
48. Улад. Ізяслаў-Бруцкі $80.oo
49. А. Ражанец (Англія) $75.oo
50. Беларускі Дабрачынны Фонд у Лёндане (Англія) $75.oo
51. Павел Грынкевіч $75.oo
52. Ванда Махнач $75.oo
53. Кастусь Мерляк $70.oo
54. Т. Чабатарэвіч $70.oo
55. а. Міхась Страпко $70.oo
56. Івонка Сурвілла (Канада) $70.oo
57. Др. Зіна Гімпелевіч (Канада) $67.oo
58. Міхась Пашкевіч (Канада) $60.oo
59. П. Шыркоўскі (Англія) $60.oo
60. Янка Юхнавец $60.oo
61. А. Субота $60.oo
62. Янка Шымчык $60.oo
63. Мікола Галоўка $55.oo
64. Юрка Касьцюкевіч $50.oo
65. Людвіка Беленіс $50.oo
66. Пятро Зыбайла $50.oo
67. Юрка Станкевіч (Чэхія) $50.oo
68. В. Сяргіевіч $50.oo
69. Гэнрык Сенькевіч $50.oo
70. Мікола Касьцюк $50.oo
71. М. К. (Канада) $50.oo
72. Люіс Колін $50.oo
73. Антон Даніловіч - Я. Золак $50.oo
74. Праф. Томас Бэрд $50.oo
75. Вольга Грыцук (Канада) $50.oo
76. Арсень Монід (Канада) $50.oo
77. В. Бельмач (Канада) $50.oo
78. Астап Яраховіч $50.oo
79. Міхась Белямук $50.oo
80. Лявон Салавей $50.oo
81. Барыс Русак $50.oo
82. Алег Дубяга $50.oo
83. Др. Янка Шыбут $50.oo
84. Др. Анатоль Занкавіч $50.oo
85. Юрка Арэхва $50.oo
86. Яніна Каханоўска $50.oo
87. В. Валадкевіч $50.oo
88. Андрэй Росін $50.oo
89. Др. Вітаўт Рамук $50.oo
90. Вольга Канарчук $50.oo
91. Г. Маталыцкі $50.oo
92. Слава Карніловіч $50.oo
93. Нікадэм Жызьнеўскі $50.oo
94. Ванкарэм Нікіфаровіч $50.oo
95. Аляксандар Сільвановіч $50.oo
96. Марыя Гарбачоў $50.oo
97. Моніка Банькоўска (Швайцарыя) $50.oo
98. Леанід Норык $50.oo
99. Др. Міхась Жылік $50.oo

**IУ.**

**Ахвяры ў суме $45.oo ці менш даль...**

100. Марат Клакоцкі $45.oo
101. Масей Сяднёў $45.oo
102. М. Швэдзюк (Англія) $45.oo
103. Юрка Рэпэцкі (Канада) $44.oo
104. Пётра Пікулік $40.oo
105. Юстын Ягоўдзік $40.oo
106. Ліда Катовіч $40.oo
107. Янка Грушык $40.oo
108. Уладзімір Русак $40.oo
109. Віктар Ефрэменкоў $40.oo
110. Ніна Кіт $40.oo
111. Джордж Корчык $40.oo
112. Расьціслаў Завістовіч $40.oo
113. М. Дзейко (Англія) $40.oo
114. А. Сідаровіч (Англія) $40.oo
115. Галя Байкоўская (Англія) $40.oo
116. Віталі Цярпіцкі $40.oo
117. Алекс Міраеўскі $40.oo
118. Юрка Наумчык $40.oo
119. Аркадзь Сацэвіч $40.oo
120. Міхась Бахар $40.oo
121. Аўген Завістовіч $40.oo
122. Янка Азарко $40.oo
123. М. Баяроўскі (Англія) $37.oo
124. М. Залога (Англія) $37.oo
125. В. Еўдакімаў (Англія) $37.oo
126. Ян Дубчонак (Англія) $37.oo
127. Кастусь Верабей $35.oo
128. Сямён Дудар $35.oo
129. З. Каліноўска (Аўстралія) $35.oo
130. Др. Лявон Трусэвіч $35.oo
131. А. Айе (Канада) $32.oo
132. Антон Філістовіч $30.oo
133. Др. Вітаўт Кіпель $30.oo
134. Яраслаў Калюцік $30.oo
135. Лявон Кавалёў $30.oo
136. Валя Мазуро $30.oo
137. А. Якубовіч (Англія) $30.oo
138. В. Мартынчык (Англія) $30.oo
139. Ф. Зындзель (Англія) $30.oo
140. Лявон Шыманец (Францыя) $30.oo
141. В. Богдан $30.oo
142. Славік Шабовіч $30.oo
143. Аляксей Кузьміч $30.oo
144. Кацярына Грынкевіч $30.oo
145. Сьцяпан Махакей $30.oo
146. Пятро Нягода $25.oo
147. Васіль Шчэцька $25.oo
148. Барыс Данілюк $25.oo
149. Лявон Стагановіч $25.oo
150. St. Тамара $25.oo
151. Янка Каваленка $20.oo
152. Міхал Шабеко, Sr. $20.oo
153. Язэп Бабіцкі $20.oo
154. Уладзімір Машанскі $20.oo
155. Марыя Кажура $20.oo
156. Вероніка Акановіч $20.oo
157. а. Максім Таўпека (Канада) $20.oo
158. Янка Навагродзкі $20.oo
159. Міхась Сенько $20.oo
160. Віктар Балтрусевіч $20.oo
161. П. Парфенаў (Канада) $20.oo
162. Міхась Калядка $20.oo
163. Фёдар Паўлавец $20.oo
164. а. Зьміцер Беленькі $20.oo
165. Кастусь Калоша $20.oo
166. Рая Станкевіч $20.oo
167. Ю. Кажан $20.oo
168. Віталь Зайка $20.oo
169. Вацлаў Разюк $20.oo
170. Т. Шайпак (Аўстралія) $14.oo
171. Аляк. Легкашкур (Польшча) $10.oo
172. Крыстафор Жаўняркевіч $5.oo
173. Мікола Латушкін $40.oo
174. Уладзімір Траскевіч $30.oo

**Дарагія Беларускія Патрыёты і сябры!**

1998-ы год наша выдавецтва закончыла дадатняй надвышкай у суме $75.oo даляраў... І гэта пасьля падвышкі коштаў выдавецтва і новага спосабу перасылкі. Будзем спадзявацца, што новы 1999 год будзе яшчэ больш плённым і шчасьлівым...

**Усім яшчэ раз шчырае Дзякуй!**

## КАРОТКІЯ, АПОШНІЯ ВЕСТКІ...

**(З Эўропы паведамляюць, што)**

**25-га сьнежня 1998 г., Б. Ельцын і А. Лукашэнка падпісалі паперкі, якія на іх думку, павінны дапамагчы ўтварыць "новы саюз Расеі і Беларусі". У міжчасе Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб і Сямён Шарэцкі асудзілі падпісаньне гэтых паперак у Маскве, як "праступства супраць беларускага народу... Лукашэнка баіцца новых выбараў... таму ён аддае незалежнасьць Беларусі Маскве, спадзяючыся атрымаць высокае становішча ў новым саюзе".**

**А Лукашэнка дарваўшыся да камэраў свайго ТВ апраўдваў новыя падпісаныя дэкларацыі і па прывычцы далей абалваньваў беларускі электарат. Новы міністр замежных спраў Беларусі — кадравы палкоўнік КГБ — каўказец Урал Латыпаў інфармаваў замежных дыпляматаў у Менску пра "новы, адзіны саюз", які заключае ў сабе поўнае далучэньне Беларусі ў склад Расейскае Фэдэрацыі...**

**Бяручы гэта пад увагу, Сямён Шарэцкі разам з Станіславам Шушкевічам і Мячыславам Грыбам (былымі старшынямі Вярхоўнага Савету) выслалі ліст Б. Ельцыну з пратэстам далучэньня Беларусі да Расеі. Яны пішуць, што "акупацыя Беларусі Расеяй будзе падобнай на акупацыю Балтыцкіх краінаў у 1940 годзе. Яны папярэджаюць Ельцына ў суровых наступствах гэтае дэкларацыі... А Лукашэнка ў навагоднім "Пасланії" далей дурачыць сваіх падданых, кажучы, што 1998 год ня быў такім дрэнным, а прадуктыўнасьць Беларусі нават узрасла... а на самай справе больш як палова беларускага насельніцтва ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. На Беларусі пануе бяда, а Лукашэнка ў гэты час прадае Беларусь у чужую няволю...**

**"Народная воля" і "Навіны" зьмясьцілі паведамленьне аб скліканьні сэсіі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, на якой назначыцца дата новых прэзыдэнцкіх выбараў у 1999 годзе.**

**З гэтае прычыны лукашэнкаўскія папіхачы на Беларусі пачалі махаць кулакамі і застрашваць апазыцыю, бо яна, маўляў, хоча выклікаць супраць лукашэнкаўскі настрой і праваакаваць масавыя забурэньні і паўстаньні...**






Сьв. Памяці

**ЯНКА АЎДЗЕЙ**

адыйшоў у вечнасьць 19 лістапада 1998 г.
Сьв. пам. Янка Аўдзей быў сталым чытачом нашае газэты і ахвярадаўцам на выдавецкі Фонд.
Выказваем спачуваньні жонцы Тамары і Ўсім Родным ды блізкім.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

Падаецца да ведама наш e-mail address:
**bdigest@iserv.net**



## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы,

Беласточчына...

| | |
|---|---|
| 42. а. Аляксандар Яноўскі (Канада) | $150.oo |
| 43. Др. Ян і Надзя Запруднікі | $100.oo |
| 44. Анна і П. Шыркоўскія (Англія) | $81.oo |
| 45. Леанід Норык | $50.oo |
| 46. Уладзімір Бельмач (Канада) | $50.oo |
| Першая Лiста ахвярадаўцаў з Аўстраліі сабраная ў аўстралійскіх далярах... — | |
| 47. Алег Шнэк | $20.oo |
| 48. В. Шайпак | $30.oo |
| 49. А. Кукель | $20.oo |
| 50. Н. Яўневіч | $5.oo |
| 51. В. Русак | $10.oo |
| 52. М. Тэрэшкевіч | $10.oo |
| 53. Уладзімір Сідлерэвіч | $20.oo |
| 54. І. Яшчанка | $20.oo |
| 55. Я. Алехна | $25.oo |
| 56. Т. П. Гуз | $20.oo |
| 57. Ф. Корбут | $20.oo |
| 58. С. Корбут | $10.oo |
| 59. Надзя і Аўген Грушы | $50.oo |
| 60. В. Смольскі | $10.oo |
| 61. Л. Грыцук | $30.oo |
| 62. Беларускі Жаночы Камітэт у Вікторыі | $200.oo |
| 63. Беларускі Цэнтральны Камітэт | $300.oo |
| 64. Беларускі Вызвольны Фронт | $50.oo |
| 65. Федэральная Рада Аўстраліі | $50.oo |
| У пераводзе на амэрыканскія даляры агульная сума выносіць: — | $568. 35 |
| 66. Міхась Каленік | $100.oo |
| 67. Л. і Д. Швефель | $50.oo |
| 68. С. і А. Гушча | $20.oo |
| 69. А. Садоўскі | $20.oo |
| 70. Л. і П. Нягода | $10.oo |
| 71. Р. Мартынюк | $20.oo |
| 72. Г. і А. Іванюк | $20.oo |
| 73. І. Стэльмашук | $10.oo |
| 74. Л. Волтерс | $20.oo |
| 75. М. і І. Тапалеўскі | $20.oo |
| 76. В. і А. Сутынец | $20.oo |
| 77. К. і І. Цыпурка | $20.oo |
| 78. Н. і М. Кулагін | $20.oo |
| 79. М. Говін | $6.oo |
| 80. Н. і Е. Весялоўскі | $24.oo |
| 81. І. Леанюк | $10.oo |
| 82. З. і В. Мельнічук | $40.oo |
| 83. Н. Сарачынска | $20.oo |
| 84. Беларуская Праваслаўная Царква Сьв. Юр'я ў Чыкага | $50.oo |
| 85. Др. Янка Шыбут | $50.oo |
| 86. Др. Вітаўт і Зора Кіпель | $100.oo |

Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў у наступных № № газэты... Дякуем!

Просім усіх чытачоў, якія не ахоплены Зборнымі Лістамі перасылаць свае ахвяраваньні асабіста на наш адрас...





## БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ СЬВ. ЮР'Я Ў ЧЫКАГА — 40 ГАДОЎ.

Нядаўна ў Чыкага ў беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне саракагодзьдзя з дня яе заснаваньня. Пасьля сьвятой літургіі ўсе прысутныя былі запрошаны на ўрачысты абед. Прагучалі афіцыйныя віншаваньні і прывітаньні, у тым ліку і ад губернатара штату Ілінойс. У сваёй яскравай прамове Мікола Латушкін, адзін з першых заснавальнікаў гэтага прыходу і сакратар царкоўнай рады, нагадаў многія выдатныя старонкі з гісторыі царквы, якая была і ёсьць важным асяродкам беларушчыны і духоўным і культурным цэнтрам у Чыкага. Затым адбыўся сьвяточны канцэрт, у якім прынялі ўдзел дзеткі, выхаванцы гуртка беларускай музыкі і танцаў пры парафіі сьвятога Юр'я, а таксама артысты фальклорна-музычнага ансамблю "Забава".

Спецыяльна з Беларусі на сьвяткаваньне юбілею царквы прыехалі епіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій і старшыня Брацтва Трох Віленскіх Мучаньнікаў Мікола Матрунчык, добра вядомы сёньня ў асяродку беларускай творчай інтэлігенцыі. Яны згадзіліся пагутарыць з намі.

— Мне хочацца адразу падкрэсьліць, што на Беларусі, якая заўсёды вызначалася сваёй талерантнасьцю, стагодзьдзямі мірна суіснавалі асноўныя сусьветныя рэлігійныя канфэсіі — і праваслаўныя, і каталікі, і іудзеі, і пратэстанты, і мусульмане, — так пачаў епіскап сваё развагі аб сёньняшніх духоўных працэсах на беларускай зямлі і ў дыяспары.

разбурылася, ператварылася ў рассаднік бязбожнасьці, ва ўсясьветны антыхрысьціянскі цэнтр? Чаму людзі, якія мелі тады штамп "праваслаўны" ў сваіх пашпартах, расстрэлвалі сьвятароў у Салаўках? Колькі сьвятароў зьнішчана ў Гулагу? За што? Чаму? Як пасьля ўсяго гэтага, пасьля эпохі ганеньняў і рэпрэсій узьняцца на ногі, знайсьці сваё мейсца ў жыцьці?

У сёньняшнім грамадзтве многае зьмянілася, папулярна сталася быць веруючым, модна быць праваслаўным. Але што сапраўднае, а не паказное? Як пры гэтым царкве паводзіць сябе, вызначыць сваё становішча і мейсца ў грамадзтве? Тут вельмі важнае значэньне маюць нашыя ўзаемасувязі і кантакты, у тым ліку і мой прыезд сюды — упершыню за сорак гадоў праваслаўны сьвятар з Бацькаўшчыны прыехаў у гэты праваслаўны беларускі прыход. І ня толькі дзеля юбілею, але і дзеля ўзаемаабмену найкаштаўнейшым вопытам духоўнай службы і духоўнай працы і кантакту з прыхаджанамі.

Царква, храм — гэта найперш лячэбніца духоўная, ўратавальніца душы. Мы мусім быць як мэдыкі: якая-б улада ні прыйшла, мы павінны выконваць свой абавязак. Маральны аспект стала захоўваецца за царквою, і ў гэтым напрамку мы стараемся ўзьдзейнічаць на душы людзей, казаць сваё слова. Асноватворны фактар сёньня — гэта прымірэньне з самім сабой, духоўнае фармаваньне кожным самога сябе. Адна з асноўных мэтаў царквы бачыцца ў дапамозе людзям усьвядоміць сэнс іхнага жыцьця. І тут вялікае значэньне маюць духоўныя сьвятыні, якія стварaліся, як правіла, у цяжкія часы. Вось і цяпер беларуская праваслаўная царква пачала з пакаяньня, з аднаўленьня нашай нацыянальнай сьвятыні — славутага Крыжа сьвятой Ефрасіньні



Агульны фотаздымак удзельнікаў сьвяткаваньня 40-ка гадовага юбілею Беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Юр'я ў Чыкага, 22-га лістапада 1998 г. Фота М. Латушкіна.

— Вельмі частыя былі і зьмешаныя шлюбы, і сем'і жылі ў міры і згодзе. Таму і сёньня вельмі важна кожнаму вызначыць сябе духоўна, знайсьці, адчуць і выхаваць у сябе тую духоўнасьць, якая ёсьць бліжэйшая да цябе. Свой духоўны выбар, напэўна, трэба даказваць проста — сваімі штодзённымі справамі, сваім жыцьцём. Усё прымусовае, нават прымусовае дабро будзе мець потым скажоныя і хворыя вынікі.

Рэлігійныя канфэсіі на былой савецкай прасторы перажываюць сёньня асаблівы пэрыяд. Пасьля амаль васьмідзесяці гадоў забароны і ганеньняў мы нібы выйшлі з катакомбаў, атрымалі магчымасьць свабоднай пропаведзі, вольнага духоўнага выбару. Але яшчэ жывыя стэрэатыпы мінулага, ад якіх трэба адыходзіць рашуча. Нельга забывацца на лекцыю гісторыі. Рэлігія — гэта сувязь чалавека з Богам. І калі яна ператвараецца ў палітыку, у ідэялёгію, тады разбураюцца храмы. І праваслаўе, і іншыя рэлігіі губляюць многае, калі яны становяцца дзяржаўнай структурай.

З другога боку, роздум аб мінулым ставіць мноства іншых пытаньняў. Чаму Расія, трэцьці Рым,

Полацкай...

Мы многа чулі пра тую працу, што вядзе ў парафіі сьвятога Юр'я айцец Дзімітры Бажко, рады магчымасьці прыехаць сюды ў Амэрыку, пазнаёміцца з царкоўным жыцьцём, нешта пераўнаць, нешта пераняць. Беларуская дыяспара ў Амэрыцы захавала многія рысы і традыцыі нацыянальнай і агульначалавечай духоўнасьці, і гэта вельмі важна і павучальна сёньня.

Другі наш госьць і субяседнік, Мікола Матрунчык, расказаў аб тым, што-ж уяўляе сабой Беларускае Брацтва Трох віленскіх Мучаньнікаў.

— Нашае Брацтва створана ўжо болей 7 гадоў таму, названа яно так у гонар віленскіх сьвятых Антона, Яна і Яўстафія, жыцьцё і пакутніцкая сьмерць якіх — сымбаль нашага беларускага лёсу. Брацтва аб'ядноўвае беларускую інтэлігенцыю, якую цікавяць праваслаўныя традыцыі ў беларускай культуры і наадварот — традыцыі беларускай культуры ў праваслаўі. Аснова нашай працы — гэта дасьледчая і выдавецкая дзейнасьць. У нашай лабараторыі царкоўнай гісторыі мы стараемся з пункту гледжаньня рэлігіі вывучыць і асьвятліць

многія праблемы нашай нацыянальнай гісторыі, на многія выпрацаваць прынцыпова іншы пагляд. Мы таксама праводзім калеквіумы і сэмінары па розных пытаньнях узаемасувязяў духоўнага жыцьця і культуры. Нядаўна, напрыклад, мы праводзілі сэмінар "Духоўнасьць і паэзія", які выклікаў вялікую цікавасьць. Актыўна працуе наша маладзёжная філія Брацтва, яна пасьпяхова наладжвае сувязі з замежнай духоўнай моладзьдзю. Мы лічым вельмі важным ня быць правінцыяльнымі, бачыць і ацэньваць свае нацыянальныя духоўныя традыцыі ў эўрапейскім кантэксьце. Абапіраючыся на наша Брацтва, Усясьветны савет цэркваў адкрыў свой беларускі офіс. Мы атрымліваем дапамогу з розных царкоўных фондаў і агенцтваў і разьмяркоўваем яе па парафіях, па цэрквах, сочым, каб яна трапляла тым, хто мае ў ёй патрэбу.

У гутарцы прыняў удзел сьвятар царквы сьвятога Юр'я айцец Дзімітры Бажко, які яшчэ раз спэцыяльна падкрэсьліў значэньне гэтага першага за ўвесь час існаваньня прыходу прыезду гасьцей — прадстаўнікоў беларускай праваслаўнай царквы. У тыя дні адбыліся таксама сустрэчы епіскапа Гарадзенскага і Міколы Матрунчыка з чыкагскімі праваслаўнымі іерархамі мітрапалітам грэцкім Якавасам і мітрапалітам сэрбскім Хрыстафорам. Разьвітваючыся, госьці прасілі перадаць найлепшыя зычэньні ўсім беларусам, што жывуць у Амэрыцы.

Гутарку вёў Ванкарэм Нікіфаровіч